Вітаю! Я — Жэнька, самая звычайная беларуская дзяўчынка, вучуся ў звычайнай беларускай школе. І жыву ў невялікім беларускім горадзе, таксама звычайным. То і мае гісторыі, якія я вам хачу расказаць, што здарыліся са мной у розны час, самыя звычайныя.



# Як я стала каралевай мышак

Я тады зусім малая была. Ну як зусім — апошні год у дзіцячым садку. І вось на навагодні ранішнік ставілі ў нас музычны спектакль. Там героі такія былі: сняжынкі, мышкі і шкадлівы кот, які ганяў мышак і сняжынак,

не даваў ім справіць зімовы баль. А яшчэ каралева мышак, такая рашучая, што нават ката не спужалася і прагнала яго.

Хлопчыкі былі мышкамі, дзяўчынкі — сняжынкамі. Я спачатку хацела, як і ўсе дзяўчынкі, лётаць сняжынкай, разам з усімі танчыць у белай бліскучай сукенцы, але ж выхавальніца так угаворвала мяне стаць каралевай мышак, казала, што ні ў каго лепей за мяне не атрымаецца, — і я пагадзілася. І выхавальніцу, вядома, пашкадавала: ніхто з дзяўчынак не пагаджаўся быць мышынай каралевай… А шкадлівага ката нават і шукаць не давялося: кожны хлопчык толькі пра тое і марыць, каб некаму недзе нашкодзіць.

Увечары мы з татам да прыгожай кароны прымайстравалі вушы, якія «пазычылі» ў мяккай цацкі. Атрымаліся амаль сапраўдныя! Хвост зрабілі са шнура для бялізны, пафарбавалі яго ў шэры колер, прышылі да штаноў — вось і каралева мышак! А яшчэ мне на носе намалявалі вялікую чорную кропку, на шчоках — вусікі. Было так смешна!

Перад ранішнікам выхавальніца весела мне ўсміхалася, а хлопчыкі, якія былі ў маім мышыным атрадзе, так і віліся вакол мяне.

А потым я глянула на нашых дзяўчынак-сняжынак. І мне стала неяк сумнавата. Яны былі сапраўднымі прынцэсамі, як у

кіно! У іх былі такія файныя белыя сукенкі! Такія банты з белых іскрыстых стужак на галовах! І дзяўчынкі адразу сталі іншымі: не бегаюць, не смяюцца, такія паважныя. А як мамы ў апошнія хвіліны папраўлялі ім валасы, як аглядалі з усіх бакоў: тут паправяць, там падцягнуць… І між сабой перамаўляюцца, дзе хто якую сукенку купляў, колькі грошай заплаціў.

Мая мама стаяла побач са мной і трошку вінавата ўсміхалася. Мяне што збіраць: валасы сабраць у «мышыны хвост» — вось я і гатовая. А калі ўсіх бацькоў запрасілі ў актавую залу, да мяне падышла Кацярынка — яна заўсёды ўсім хваліцца — і кажа:

— Жэнька, а мая сукенка ведаеш колькі каштуе? Мне яе тата з Польшчы прывёз! А ўчора мне прычоску рабіў сам майстар з цырульні, мы яго дамоў выклікалі! А ты — шэранькая!

Мне стала вельмі крыўдна. Я і так сябе адчувала непрыгожай, яшчэ і нос размалявалі… Вушы гэтыя… А ў дзяўчынак такія прычоскі — сапраўдныя!

Пачаўся спектакль. Калі дзяўчынкі-сняжынкі выйшлі на свой першы танец, адразу столькі фотаапаратаў запстрыкала, успышкі заблісталі. А як я выйшла, у зале ціхенька засмяяліся… Я так раззлавалася! І на

ката, калі трэба было, так накінулася, што ён напраўду спалохаўся!

Потым нам уручалі падарункі, дзяўчынак мамы фатаграфавалі з дзедам Марозам ля ёлкі, а мая мама мне сказала:

— Хадзем дадому, мая шэрая мышка…

Мне не хацелася ні цукерак, ні шакаладкі. Я адразу пайшла ў свой пакой і дастала каробку з лега.

Потым прыйшоў тата.

— Ну, як справы, мая каралева? Я выпадкова сустрэўся з тваёй выхавальніцай. Яна сказала, што ты іграла проста выдатна! Малайчынка.

— Ну і няхай, — буркнула я.

— Дык чым ты незадаволеная? — здзівіўся тата.

— Нічым.

— Не, ты раскажы, — стаў настойваць тата.

— А што расказваць, што? — з адчаем загаварыла я. — Усе дзяўчынкі ведаеш у якіх сукенках былі? Ім таты з Польшчы прывозілі! Ім прычоскі сапраўдныя цырульнікі рабілі! А я… А я была шэрай! Сняжынак мамы фатаграфавалі, а з мяне смяяліся ўсе, як выйшла!

І тут слёзы самі сабой закапалі мне на рукі і на кавалачкі лега. Я не выцірала вочы, тата нічога не казаў. Ён глядзеў, якія часткі

з лега мне патрэбныя, вышукваў іх з кучы і моўчкі падаваў. А потым спытаў:

— Ты якую машынку збіраеш, вось такую? — і паказаў на малюнак на каробцы.

— Навошта мне такая? — адказала я. — Я такую ўжо збірала. Такую машынку ўсе збіраюць.

— Нецікава збіраць тое, што збіраюць усе, так?

— А што цікавага? Вельмі проста…

— Вось бачыш, — ціха працягнуў тата, — вельмі проста і не зусім цікава рабіць тое, што робяць усе. Ці не праўда?

— Праўда, — згадзілася я.

— Вось… А хіба вельмі цікава і складана быць адной сняжынкай сярод многіх?

— А што, мышынай каралевай быць лепш? — агрызнулася я.

— Ну, мы размаўляем не пра тое, што лепш. А пра тое, што прасцей і што цікавей. Быць адной сярод многіх падобных — проста і звыкла. А вось быць асаблівай, ні на каго не падобнай — і складана, і цікава. Так?

— Так, — мусіла згадзіцца я і ўздыхнула. — Але ж сняжынкай быць прыгожа…

Тут тата рассмяяўся, прытуліў мяне да сябе.

— Прыгожа тое, што сэрцу міла! А ты ж была не проста мышкай, ты была каралевай мышак! Гэта значыць не проста галоўнай, а

іх абаронцай. Самай смелай, самай рашучай. Як ты ката напалохала, а?

Я ўсміхнулася, успомніўшы, як на самай справе спалохаўся кот.

— Напалохала…

У пакой зазірнула мама. Яна спытала:

— Можа, мы тут гарбаты з цукеркамі пап’ём? — і прынесла нам гарбату.

Потым мы з татам закончылі збіраць новую машынку з лега. Мажліва, яна атрымалася не такая прыгожая, як на малюнку, затое такую ніхто дакладна не складаў.

# Наш касмічны карабель



Я добра закончыла чвэрць — на дзявяткі і дзясяткі, і мы з татам пайшлі купляць самалёт. Самалёт — гэта набор лега. Там дэталяў, можа, тысяча! Вы ж памятаеце, я казала, што вельмі люблю складаць з лега самыя розныя штукі. Мы прынеслі каробку дадому, і я патэлефанавала Андрэйку.

Андрэйка жыве побач, мы з ім сядзім за адной партай у класе. Ён не шкадлівы, не сквапны і не хітры. Яго лёгка абдурыць, і яго дураць усе, каму захочацца, а мне яго шкада. Я злуюся тады, крычу, а ён толькі ўсміхаецца, як маленькі. Зусім жыць не ўмее! Андрэйка часта хварэе, прапускае заняткі ў школе, потым прыходзіць да мяне — і мы разам рашаем задачкі і прыклады па матэматыцы. Андрэйка таксама вельмі любіць лега. Мы з ім такое складаем: і робатаў, і іншапла-

нетныя гарады, і касмічныя станцыі, і новыя аўтамабілі! З ім цікава, ён умее прыдумляць і мяне навучыў.

Андрэйкі дома не было: пайшоў з мамай у паліклініку, зноў у яго прастуда. Я крыху засмуцілася і пачала збіраць самалёт сама: на дыван у пакоі высыпала ўсе дэталі, бо люблю складаць лега на падлозе — месца болей.

Ух, і цяжка было! Столькі дэталяў… Мне і тата дапамагаў, і мама заходзіла, глядзела, падказвала. Самалёт атрымаўся цудоўны: вялікі, рознакаляровы, з пілотамі ў кабіне, з пасажырскім салонам і з такімі тонкімі, вялікімі і прыгожымі крыламі! Мама на яго дзівілася, а потым сказала, што трэба паставіць яго ў шафу ў вялікім пакоі — будзе прыгожа. А я каб самалёт не чапала, бо мне ж і так хапае з чым гуляць. Мне было трошку шкада, што так хутка скончылася цікавая справа, але няхай маме будзе прыемна.

Праз тыдзень Андрэйка паправіўся і прыйшоў да мяне. Яго вочы так загарэліся, калі я яму самалёт з лега паказала! Андрэйка асцярожна кратаў крылы, заглядваў у кабіну, браў самалёт у рукі.

— Шкада, што я хварэў, — уздыхнуў ён. — Цікава, напэўна, было збіраць?

— Ага, — адказала я. — Цікава. А так складана! Увесь дзень збірала.

— Калі б мы разам былі, то хутчэй сабралі б, — яшчэ раз уздыхнуў Андрэйка.

— Можа, тата мне карабель купіць, — захацела я суцешыць Андрэйку. — Я без цябе тады складаць не буду, нават калі ты два тыдні хварэць будзеш.

— Ага, — зноў уздыхнуў Андрэйка.

Тата пайшоў у краму, мама была на кухні. Я помніла, што яна казала пра самалёт. Маму нельга не слухацца, але я падумала, што калі самалёт я сабрала адзін раз, то можна ж і два разы яго сабраць, і тры — гэта ж лега. І зноў паставіць самалёт на месца.

— Хочаш, мы яго разбяром і збяром ізноў?

— А можна? — асцярожна запытаўся Андрэйка.

— Гэта ж тата мне купіў, — асмялела я. — Мы збяром і зноў паставім!

— Калі сюды дадаць розныя дэталі з лега, што ў цябе ёсць, то можна скласці сапраўдны касмічны карабель! — умомант загарэўся Андрэйка.

Я ж казала, што ён такое ўмее прыдумляць! Касмічны карабель — гэта вам не просты самалёт…

Мы ўзялі цацку і цішком занеслі да мяне ў пакой. Раз, два, тры — і замест самалёта на падлозе засталася горка лега…

Мы сабралі ўсё лега, якое было ў мяне, і пачалі. Калі з кім шчыра сябруеш, дык ведаеш, пра што ён думае і што хоча: наш карабель атрымліваўся вялікім, такім фантастычным — нідзе такога не ўбачыш.

І тут у пакой зазірнула мама.

— Жэнька! — усклікнула яна. — Навошта ты разламала самалёт? Мы ж дамовіліся, што ён будзе стаяць у пакоі, каб было прыгожа!

Андрэйка падхапіўся з падлогі і вінавата прысеў на крайчык крэсла.

— Нічога я не разламала, — трохі напалохалася я. — Мы збіраем касмічны карабель. А потым зноў збяром самалёт... Гэта ж лега, мама...

— Я ж казала, каб ты не чапала яго: у вас ёсць з чым гуляць! — гучна сказала мама. — Чаму не спыталася?

— А Андрэйка не збіраў самалёт! — мне стала так крыўдна, што вось-вось заплачу. — Гэта тата мне купіў...

Ну чаму мама не разумее, што самалёт можна зноў сабраць?

Тут прыйшоў тата і адразу зазірнуў у пакой да нас:

— Што за бунт у сямейным царстве?

— Глядзі, разламала самалёт. Ён так добра стаяў у тым пакоі...

— Ну, не разламала, а разабралі. А ўсё, што разбіраецца, можна складаць наноў, — пачаў супакойваць тата маму.

— Дык дамовіліся ж, — не магла спыніцца мама.

— Цацкі існуюць для таго, каб з імі гулялі дзеці, — сказаў тата трошку строга, — а не каб збіралі дарослыя і застаўлялі імі пакоі. Так што хадзем і пакінем дзецям іх цацкі.

Мы складалі з Андрэйкам касмічны карабель цэлы дзень. Мама больш не крычала на мяне. Яна карміла нас абедам і прыносіла нам гарбату з печывам, глядзела, што ў нас атрымліваецца. Мы так стаміліся! Затое наш касмічны карабель атрымаўся такім вялікім і прыгожым, што нават мама пагадзілася, што ён лепшы за той самалёт…

А я падумала, што касмічны карабель мне падабаецца, але складаць яго з Андрэйкам мне падабаецца яшчэ больш. І яшчэ я падумала, што, калі б адразу запыталася ў мамы пра самалёт, яна б абавязкова дазволіла яго ўзяць і зусім бы не крычала. Бо ёй таксама падабаецца, як мы гуляем з Андрэйкам.

# Як я даведалася пра выключэнні з правілаў



У кожным класе знойдзецца задзіра, які будзе крыўдзіць слабейшых. Вось і ў нашым класе такі ёсць — Пятрусь. Ён не самы дужы, але гэткі нахабны і шкадлівы! Са мной за партай сядзіць Андрэйка, ён кволы, часта хварэе, ціхі і сціплы. Дык яго Пятрусь заўсёды чапляе. То абразіць словамі, то кніжку са стала скіне, то штурхне. Я б заступілася, ды сама баялася, бо Пятрусь такі, што і стукнуць можа. Вунь Дашу — яна за намі сядзіць, таксама сціплая, кірпатая, — так быў штурхнуў, яна ажно ўпала. Мы і настаўніцы казалі, але што таму Петрусю — тыдзень пабудзе ціхі, а потым ізноў пачынае.

Неяк на ўроку фізкультуры нас, дзяўчынак, сабралі разам, да нас падышоў незна-

ёмы мужчына і сказаў, што ён — трэнер па дзюдо. І, калі хто хоча займацца ў ягонай секцыі дзюдо, можна сёння ж прыйсці, толькі з бацькамі, каб пазнаёміліся і дазволілі. Гэты трэнер сказаў, што дзяўчынкі, якія ў яго займаюцца, растуць дужымі, спрытнымі, могуць самі бараніцца ад любога нахабніка. І я адразу вырашыла: буду займацца дзюдо — і стану дужай!

Сказала пра гэта дома. Мама ажно прысела ад неспадзеву:

— Я так хацела, каб ты пайшла ў музычную школу…

І тата на мяне з такім здзіўленнем паглядзеў:

— І малюеш ты добра. Што гэта за дзяўчынка, калі яна будзе барацьбой займацца?

— Я буду маляваць дома, сама. І з настаўніцай займацца буду, — пачала я бараніцца. — І ў мяне няма музычнага слыху, вы ж правяралі яшчэ два гады таму…

— А божухна! Але ж барацьба — гэта не для дзяўчынак, — не магла супакоіцца мама.

— А няхай паспрабуе, — раптам сказаў тата. — Нічога дрэннага ў гэтым няма. Дзяўчынка павінна ўмець бараніць сябе.

— Вядома, час такі, — быццам успомніла пра нейкую важную акалічнасць мама. — Спрабуй, дачушка, — згадзілася і яна. — Толькі будзь асцярожнай…

І я пачала займацца дзюдо. Думала, што нас адразу пачнуць вучыць розным прыёмам. Але ж не! Напачатку ў нас былі быццам заняткі па фізкультуры: мы бегалі, скакалі… Так цяжка было, мы так стамляліся! Трэнер зусім не шкадаваў! Многія кінулі займацца, але я цярпела, і як хто сыходзіў, толькі больш рашучасці дадавалася: а я вытрымаю! Нарэшце мы пачалі вучыцца рабіць захопы, падсечкі, падножкі, кідкі… Так мінула амаль тры месяцы, мы ўжо рыхтаваліся да першых сваіх спаборніцтваў.

Дык вось, што здарылася ў класе. У адзін дзень той самы Пятрусь на перапынку зноў штурхнуў Андрэйку. Ды так, што той паляцеў проста на мяне, і мы ледзь удваіх не паваліліся. А Пятрусь рагоча здзекліва, паказвае на нас пальцам: маўляў, глядзіце — стаяць, абняліся!

Мне стала і сорамна, і крыўдна аж да слёз. Я падскочыла да Петруся і крыкнула яму, што ён — хуліган і калі не супакоіцца, то я яму пакажу! Адкуль у мяне смеласць узялася — сама не ведаю, мабыць, такая злосная была. Усе сцішыліся ад такой неспадзеўкі, глядзяць на нас. Пятрусь перастаў смяяцца, засоп пагрозліва і пацягнуўся рукой да майго пляча.

Як далей атрымалася, сама не разумею. Гэта ўсё трэніроўкі. Калі да цябе цягнецца

рука праціўніка, трэба захапіць яго рукаў як мага вышэй, пацягнуць на сябе... Вось пра што я ўспомніла ў той момант — і схапіла Петруся за рукаў. А далей прыём сам сабой пайшоў: я падсекла і кінула Петруся. Ён бразнуўся проста на падлогу! Мне б за такі чысты кідок суддзя «іпон» паставіў — адзнаку такую.

У класе спачатку ўсе раты паразяўлялі, а потым зарагаталі, закрычалі, дзяўчынкі ажно ў ладкі запляскалі. Пятрусь падхапіўся, абтрасае штаны, ні на каго не глядзіць, а з яго смяюцца ўсе, пальцамі паказваюць. Ён і выскачыў з класа.

— Скардзіцца пабег, — сказаў Андрэйка.

— Ну і няхай, — адказала я, а сэрца закалацілася ад хвалявання: што ж гэта будзе?

Трэнер нам колькі разоў казаў: нельга нам свае прыёмы выкарыстоўваць нідзе, апроч спартыўнай залы. За гэта могуць выключыць са спартыўнай секцыі. Я вырашыла, што трэба ўсё самой расказаць настаўніцы і трэнеру, і пайшла іх шукаць.

На першым паверсе, пад лесвіцай, я ўбачыла Петруся. Ён стаяў тварам да акна, плечы торгаліся... Ён плакаў! Я спалохалася: а раптам ён выцяўся вельмі моцна? Павагалася трошку і падышла да яго.

— Табе баліць? — я асцярожна дакранулася да яго пляча.

— Ідзі адсюль, — адказаў Пятрусь праз ўсхліпы. — Не баліць, падумаеш!

— Дык чаго ты румзаеш?

Пятрусь павярнуўся да мяне — твар мурзаты, вочы чырвоныя.

— З мяне ўсе смяяліся, ты мяне зганьбіла! Я больш у клас не пайду!

— А як ты каго крыўдзіў, ім так не было?! — упікнула я, хоць мне яго стала і шкада. Мне ўсіх шкада, хто плача.

Пятрусь шморгнуў носам, выцер кулакамі вочы, паглядзеў на мяне:

— Так не чэсна: ты прыёмы ведаеш…

— А хочаш навучыцца? — прапанавала я. — Запісвайся на дзюдо, там жа і хлопчыкі ёсць у секцыі.

— А цяпер хіба возьмуць? — завагаўся Пятрусь.

— Возьмуць! — упэўнена адказала я.— Ты ж дужы.

Увечары я прыйшла на трэніроўку, а мяне ля дзвярэй залы чакаў Пятрусь. Мы разам падышлі да трэнера. Я прызналася, што сёння ў класе кінула Петруся на падлогу, прыёмам. І дадала, што Пятрусь хоча займацца дзюдо. Трэнер строга сказаў, што я парушыла правілы. Але ў правілах бываюць выняткі: можна скарыстацца прыёмамі ў выключных выпадках, калі бароніш сябе ці слабейшага.

— Гэта быў выключны выпадак? — спытаўся ў мяне трэнер.

Я не паспела загаварыць, за мяне нечакана адказаў Пятрусь:

— Яна не вінавата. Гэта быў… той самы… выключны выпадак.

Трэнер прабачыў мне парушэнне. А Петруся ўзялі ў секцыю. Мы з ім нават пасябравалі. Ён цяпер нікога не крыўдзіць у класе, наадварот — бароніць слабейшых. Бо калі ты дужы, ты павінен бараніць. Так нас вучыць трэнер.

# Пра маленькіх мышак і вялікіх людзей



Была восень. Мы ехалі на аўтамабілі ў вёску. Дарога была прыгожая-прыгожая: шэрая стужка шашы, а паабапал жоўта-залатыя, чырвоныя, аранжавыя розныя-розныя дрэвы! Быццам гэта не проста дарога была, а сапраўдны шлях восені, якім яна прыйшла да нас.

Ехалі мы дапамагаць бабулі: у агародзе нарасло шмат буракоў, іх ужо парвалі, склалі ў вялікую кучу і цяпер трэба было іх пачысціць. Буракамі бабуля корміць парасят, а яшчэ буракі любіць каза Бенька. Казу я баюся, бо яна наставіць свае рогі ды намагаецца мяне імі стукнуць. І не адыходзіць, нават калі тата на яе замахваецца лазінай. Шкадлівая каза, але малако дае смачнае. Вось дзіўна, праўда? Мне здаецца, што ад такой казы і малако

павінна быць нейкае асаблівае. А тут — смачнае і, мама кажа, вельмі карыснае. Маме трэба верыць, бо мамы ведаюць, што карысна, а што не.

Мы пераапрануліся, нацягнулі на рукі рукавіцы і пайшлі ў агарод. Я падносіла бабулі буракі, а яна чысціла іх ад зямлі і абразала бацвінне. Мама і тата самі бралі сабе буракі з кучы і чысцілі.

Было хоць і не вельмі цёпла, затое сонечна-сонечна, а неба чыстае і такое сіняе, такое высокае! За бабуліным агародам невялікі гай, дзе растуць бярозы ды асінкі. Вясной мы з татам збіралі там першыя кветкі. А цяпер дрэвы ззялі пад сонцам, як залатыя.

Мы чысцілі-абразалі, куча буракоў хутка меншала. І тут мама як закрыць:

— Мыш! Мыш! — і пабегла ад кучы.

А я хутчэй да таго месца, дзе мама стаяла. Бо чаго баяцца той мышы, калі яна маленькая і сама ўсіх баіцца?

— Няма ўжо мышы, схавалася між буракоў, — сказаў тата.

Але мама сказала, што не падыдзе блізка, бо мыш можа скочыць ёй на руку, і няхай тата падае ёй буракі.

Цяпер буракі з кучы бралі толькі мы з татам, асцярожна, выглядаючы. Праз колькі часу тата падняў вялікі бурак і кажа:

— Гняздо. З мышанятамі.

Я адразу да таты.

Там і праўда было гняздзечка з сухой травы і саломінак. Такое кругленькае, акуратнае. Мышаняты былі маленькія і такія смешныя: цёмна-рудыя, з чорнымі пасачкамі на спінках. Яны напужаліся, што іх гняздо адкрылі, сталі распаўзацца ды хавацца сярод буракоў і бацвіння.

— Трэба кошку паклікаць, — сказала мама.

— Нельга кошку! — закрычала я. — Яны маленькія зусім!

— А вырастуць вялікімі і будуць жэрці бабуліны буракі. Во, паглядзі, як пагрызлі, — мама паказала адзін і праўда абгрызены бурак. А потым падышла да гнязда, угледзелася і сказала: — Вой, такія маленькія, пацешныя…

— Падумаеш, адзін бурак! У бабулі многа, праўда ж, бабуля? — з надзеяй запыталася я і сама прысела над мышкамі, разглядаючы іх.

— Праўда, унучачка, — адказала бабуля. — Маленькае ўсё добрае і прыгожае.

— Толькі дзіўна, чаму сярод дарослых хапае і бандытаў, і падлюгаў, — уздыхнула мама. — Жэнька, не чапай мышэй рукамі, яны разносяць інфекцыю!

— У мяне рукавіцы, — адказала я, асцярожна кратаючы адно мышаня ў гняздзе.

Тата, пакуль мы гаварылі, узяў пустую пластыкавую бутэльку, у якой была вада, абрэзаў яе, а потым асцярожна падхапіў адно мышаня і пасадзіў у бутэльку. Я таксама асмелілася і схапіла за хвосцік другое, якое шпарка паўзло ад гнязда. Так мы сабралі ўсіх мышанят — восем!

— От, гадуйце цяпер, — сказала мама. — Вырастуць, з'ядуць усё ў бабуліным агародзе.

— Не з'ядуць, — адказаў тата.

Я трымала абрэзаную бутэльку, разглядвала мышанят, а потым спытала ў бабулі:

— Бабуля, а чаму маленькія ўсе прыгожыя і добрыя, а калі вырастаюць, то робяцца рознымі: і злымі, і нядобрымі?

Бабуля прыпыніла працу, адклала нож убок.

— То, унучачка, чорт вінаваты, — пачала расказваць яна. — Некалі пасяліліся людзі на зямлі ўсякія: добрыя, злыя, зайздросныя, хцівыя, сціплыя. Спусціўся на зямлю Бог, забраў у людзей усё дрэннае, склаў у мяшок і пайшоў. Ды прытаміўся, бо цяжкі ж мяшок з людскім злом. Задрамаў пад бярозай. А тут ішоў чорт. Бачыць, што Бог спіць, дык ён пракалупаў у тым мяшку дзірку. Бог прачнуўся, не пабачыў дзіркі, закінуў мяшок на спіну ды пайшоў далей. А зло пакрысе рассыпалася па дарозе. То вось цяпер як чалавек ідзе,

сустрэне зайздрасць, падбярэ — стане зайздрослівым, нахінецца па хітрасць — стане хітрым, укіне ў кішэню падман — будзе хлусіць…

Тут і буракі закончыліся. А дарослую мышку, маці мышанятак, мы так і не пабачылі.

— Кошцы мышанят нясіце, — сказала мама, паказваючы вачыма на маю пластыкавую бутэльку. — Яна вам дзякуй скажа.

— Не дам кошцы! — зазлавалася я. — Нельга маленькіх забіваць.

— Во як мышанят бароніш! — засмяялася мама. — Нездарма ты была некалі мышынай каралевай. Дык што ты з імі рабіць будзеш? Можа, павязём у кватэру?

— Павязём у новую кватэру, — адказаў за мяне тата. — Хадземце ў лясок. Нясі, Жэнька, маленькіх… — а сам узяў тое мышынае гняздзечка.

І мы пайшлі з мамай і татам у той гай за бабуліным агародам. Там пад бярозай у траву тата паклаў мышынае гняздо, я нахіліла бутэльку, і мышаняты смешна заслізгалі проста ў сваё гняздо. Тата прыкрыў яго лісцем.

— А іх знойдзе тут мама-мыш? — спытала я.

— Думаю, знойдзе. Ды яны і не такія ўжо маленькія, адшукаюць сабе якое зернетка паесці, — супакоіў мяне тата.

У бабулі я сплю разам з мамай і вельмі гэта люблю. Мы з ёй доўга-доўга не засынаем, я расказваю свае сакрэты, а мама апавядае іншы раз, як яна была маленькая і што тады было. У гэты вечар я пачытала маме казку, потым запытала:

— Мама, а ў якой кніжцы ёсць тая казка, якую бабуля расказвала?

— Якая, дачушка? — не ўспомніла адразу мама.

— Ну, што сёння бабуля казала, пра Бога і чорта, пра мяшок са злом…

— Не сустракала такой кніжкі, дачушка. Старыя людзі ведаюць шмат казак, не ўсе яшчэ запісалі ў кнігі. Ты б хацела пачытаць яе? Хіба бабуля незразумела расказала?

— Бабуля расказала добра, — уздыхнула я. — Я цяпер ведаю, што можна і зайздрасць сустрэць, і падман… А можа, бабуля забылася трошку? Там жа, у казцы, павінна быць напісана, як угадаць, што можна з зямлі падымаць, што нельга… Вось буду ісці, ляжыць нешта прыгожае ці нешта такое, што пашкадаваць трэба. Вазьму — а гэта зло! Што рабіць?

— Табе сэрцайка падкажа, — засмяялася мама і пацалавала мяне.

А я здзівілася: як гэта сэрца можа падказаць? Яно ж во, у грудзях, толькі б'ецца і ўсё… Але маму не стала пытацца. Можа, калі я вырасту, пачну разумець яго, сэрца?

# Да самага сіняга мора




Ці казала я вам, што наш горад стаіць на беразе Грыўды? Гэта такая рака ў Брэсцкай вобласці. Наша Грыўда невялікая. Неяк на выходных тата ўзяў з сабой на рыбалку мяне і маму. Мы і рыбу лавілі, і кветкі збіралі, і палуднавалі бутэрбродамі.

Я пацікавілася ў таты:

— А куды цячэ наша Грыўда?

— Наша Грыўда ўпадае ў другую раку — Шчару, гэта тут недалёка.

— А Шчара куды?

— А Шчара ўпадае ў раку Нёман. А Нёман цячэ, цячэ і ўпадае проста ў Балтыйскае мора.

— Значыць, калі паплыць па нашай Грыўдзе, то можна прыплыць у мора? — здзівілася я. — Мне так хочацца на мора…

— Можна, — адказаў тата. — Толькі цераз многа краін трэба праплыць, а там межы, візы…

— Затое рыбе не трэба візы, — сказала мама. — І яшчэ візы не трэба… чаму? — хітра прыжмурылася яна.

— Караблiку! — закрычала я. — Мы зробім караблік, і ён паплыве да мора!

Два вечары мы ўсе разам з кавалка пенапласту рабілі караблік. Мама пашыла сапраўдныя ветразі, чырвоныя, толькі маленькія. А сам караблік атрымаўся вялікі. Мы назвалі яго «Надзея» і напісалі назву на бартах. У сярэдзіне палубы тата зрабіў спецыяльны выраз. Туды мы паклалі невялікую празрыстую пластыкавую бутэльку. А ў бутэльку — скрутак, папяровы лісток. На лістку я напісала: «Гэта суднавы журнал. Добры дзень! Мяне завуць Жэнька. Я мару пра тое, што мой караблік з ракі Грыўды прыплыве ў Балтыйскае мора. Калі так здарыцца, значыць, некалі я і сама пабываю там. Мне вельмі гэтага хочацца. Дапамажыце майму карабліку, калі ласка. Мой адрас…»

Я напісала свой сапраўдны адрас, а тата сказаў, каб дадала яшчэ і электронны — ён зарэгістраваў мне электронную пошту. Назаўтра мы пайшлі да нашай Грыўды. Там было многа рыбакоў, і яны з цікавасцю назіралі, як мы спускаем наш яркі, белы, з на-

маляванай чырвонай палоскай (каб быў бачным здалёк), караблік на ваду.

— Шчаслівага плавання! — сказалі мы і памахалі яму рукамі.

Караблік плыў, а рыбакі ўздоўж берага махалі яму і таксама жадалі сямі футаў пад кілем. Гэта значыць, каб нідзе не сеў на мель.

Ужо назаўтра я бегла глядзець паштовую скрыню: а раптам прыйшоў ліст? Не прыйшоў. І электроннага ліста не было… Тыдзень прамінуў. Я ужо і забывацца пачала — мабыць, караблік недзе прыбіла пад прыбярэжны хмызняк, зацягнула цінай…

І вось аднойчы ўвечары тата паклікаў мяне:

— Жэнька, табе ліст электронны!

«Добры дзень, Жэнька! Дакладваем: твой карабель не змог самастойна пераадолець старую плаціну, дзе Грыўда ўпадае ў Шчару. Сёння мы знайшлі яго і пасяхова спусцілі ў раку Шчару. Карабель весела паімчаў далей. А мы злавілі гэткага вялікага карпа! Твой караблік прыносіць удачу! Антон і Сяргей, рыбакі. P.S. Зрабілі запіс у суднавым журнале з пазнакай месца і даты».

Я запляскала ў ладкі ад радасці! Наш карабель у Шчары!

А яшчэ праз колькі дзён я атрымала чарговы ліст:

«Вітаю капітана Жэньку! Капітан байдаркі-васьмёркі Алег Мастыка дакладвае, што твой карабель “Надзея” быў вызвалены сёння з пасткі, у якую патрапіў пад мостам у горадзе Слоніме (там устаноўлена ў розных месцах сетка). Зрабілі запіс у тваім журнале. Няхай збываюцца мары! А мы сёння выйгралі першы заплыў на спаборніцтвах горада! Шчаслівы твой карабель! Дзякуй за яго».

Тут я і ўзрадавалася, і здзівілася: няўжо праўда мой карабель можа вось так некаму прыносіць удачу? Хіба так бывае?

— Пабачым далей, — сказала мама. — Рознае бывае ў свеце. Калі людзі дапамагаюць іншым бескарысліва, мабыць, лёс так дзячыць ім за гэта…

А потым яшчэ адзін ліст!

«Вітаю, Жэнька! Піша табе Таццяна з Гродна. Учора я адпачывала на нашым Нёмане, рыхтавалася да экзаменаў. І пабачыла, што ў вір зацягнула і прыбіла да берага тваю “Надзею”. Мы вывезлі карабель на сярэдзіну ракі і адпусцілі. Ён паплыў далей. А сёння я на экзаменах выцягнула білет, які лепш за ўсё вывучыла, і адказала на “выдатна”. Гэта твой караблік прынёс мне ўдачу. Жадаю табе і яму паспяховага плавання!»

Ого! Мой карабель ужо ў Нёмане! І ён сапраўды прыносіць удачу тым, хто яму дапамагае!

Праз колькі дзён мне прыйшло адразу два лісты.

«Капітан пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь Андрэй Валінскі паведамляе, што карабель “Надзея” пакінуў тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і прадоўжыў плаванне».

«Дакладваем: караблю “Надзея” аказана дапамога пры пераадоленні ім старой затокі. Нарад пагранічнай службы Расійскай Федэрацыі».

Ух ты, вось дык маеш! Мы цяпер усе разам: і тата, і мама, і я — чакалі чарговых лістоў. Было так хвалююча!

Мне прыходзілі лісты і ад пагранічнікаў Літвы. Тата сказаў, што Нямунас (так завуць Нёман у Літве) з’яўляецца памежнай ракой гэтых краін. І пагранічнікі дапамагалі «Надзеі» плыць! Я з мамай адзначала на карце, дзе цяпер мой караблік. Ён ужо столькі праплыў! Так блізка было мора…

А потым лістоў доўга-доўга не было.

І раптам прыходзіць ліст, ды які — з фотаздымкам! На тым фотаздымку мы пабачылі наш карабель. Ён гайдаўся на сініх хвалях вялікага-вялікага мора! Ён даплыў! Даплыў!

«Гаспадыня Жэнька! Капітан рыбалавецкага судна Айдас Кацілюс рады паведаміць Вам, што Ваш карабель “Надзея” з нашай невялікай дапамогай сёння выйшаў у адкры-

тыя воды Балтыйскага мора. Шчыра віншуем Вас і Ваш карабель!»

Гэта быў самы шчаслівы дзень!

Але на гэтым усё не закончылася. Мінула два тыдні, і паштальёнка сказала, што мне прыйшла пасылка. Мы ўсе так здзівіліся! Пасылка была з Літвы.

…У пасылцы была мая «Надзея». Дзенідзе аблупілася фарба, трошку брудным стаў белы пенапласт, выцвілі чырвоныя ветразі — сапраўдны марскі воўк, патрапаны многімі сотнямі кіламетраў шляху, прыгодамі. Гэта было проста неверагодна: трымаць у руках караблік, які насамрэч пабываў у Балтыйскім моры і вось вярнуўся. І мама так расхвалявалася, расчулілася, і тата быў узрушаны, хоць і стараўся не паказваць свайго хвалявання. А колькі самых розных запісаў было ў пластыкавай бутэльцы акрамя майго! Іх так прыемна было чытаць…

«Надзею» мы паставілі ў маім пакоі на палічку. Калі мама ўвечары выключыла святло і зачыніла дзверы, я ўстала і крадком дакранулася да борта карабліка языком. І адчула саланавата-гаркаваты смак. Смак сапраўднага мора…

# Каб ва ўсіх было свята



Найбольшыя складанасці ў нашае жыццё прыносяць дарослыя. Не таты і мамы нашыя, а наогул — усе дарослыя. Бо яны нешта выдумляюць, а нам тады пакутуй… Думаеце, я так адна лічу? Ды вось, напрыклад, Дзень Святога Валянціна, яго яшчэ Днём закаханых называюць. Хто гэтае свята прыдумаў? Дарослыя. Ды і што за свята такое? Ні вячэры смачнай на стале, ні святочнай сукенкі на маме ўвечары, тата не бывае ўрачыста-пацешным у цёмным касцюме з кашуляй пад гальштукам. Толькі ў школе — сапраўдны вэрхал. Чапляюць дзве скрыні — бо адной мала! — і цэлая чарга да іх, каб кінуць тыя смешныя «валянцінкі». А потым пачынаецца чаканне, і ўсе ажно млеюць: колькі прыйдзе? каму больш?

Летась Волечцы з нашага класа не прыйшло ніводнай «валянцінкі». Волечка непрыкметная і ціхая, на перапынках нейкая занадта павольная, а на ўроках ну такая ўважлівая — я думаю, таму, што ёй вучыцца цяжка. Яна носіць акуляры з такімі тоўстымі шкельцамі, што яе вочы выглядаюць пачварна вялікімі. Мабыць, гэта праз акуляры ніхто не хоча з ёй сябраваць… Ды яна і сама ні з кім сябраваць не жадае! Да іншых ніколі не падыдзе, чымсьці новым не пахваліцца, цікавага нічога не раскажа. Вось жа ведаю, што яна займаецца ў нейкім гуртку ў Доме дзіцячай творчасці, але ж ніколі яна пра сябе не распавядае. Такая ўжо наша Волечка таямнічая…

Дык вось, калі Волечцы дзяжурныя за той Дзень закаханых так і не прынеслі ніводнай «валянцінкі», мне стала яе шкада. Не, яна не выглядала надта няшчаснай, але… Нашы дзяўчынкі пачалі адразу падлічваць, хто колькі тых «валянцінак» атрымаў. І ведаеце што? Я сама здзівілася, як некаторыя перажывалі з-за гэтых смешных паштовачак.

Бачылі б вы нашых хлопчыкаў! Самі робяць выгляд, нібыта ім і не трэба нічога, але ж як нехта адзін атрымае тую «валянцінку», дык на яго ўсе глядзяць з зайздрасцю. А потым тыя, хто атрымаў, дык і разам ужо на

перапынках, з іншымі быццам і не сябруюць…

І дзяўчынкі былі не ў гуморы. Усім, аказваецца, мала «валянцінак» прынеслі. Наша галоўная прыгажуня Марыйка атрымала ўсяго пяць — гэта яна сама плакала і казала: «Усяго пяць… усяго пяць…»

Добра, што ёсць Волечка, якая зусім нічога не атрымала, дык іншым быццам і лягчэй — вось жа, самая няшчасная не я, а яна… І мне было так Волечку шкада, так балюча за яе! І чаму я не здагадалася ёй «валянцінку» даслаць? Няхай бы ёй было прыемна…

Вось якое свята прыдумалі дарослыя! А зараз скажыце, хіба гэта не шкода нам, дзецям? Усё было нармальна, а тут маеш — бяры і ўсім расказвай-паказвай, да каго пачуцці якія… Каго ўсе любяць, а каго ніхто і заўважаць не хоча…

Дома я маме і тату ўсё выказала. Мама згадзілася, што свята вельмі няправільнае, бо — далей яна сказала занадта вучоныя словы — выклікае нездаровую цікавасць да пачуццёвасці і прымушае дзяцей агаляць свае першыя кволыя пачуцці. Во як! А тата дадаў, што на гэтым свяце вытворцы тых самых «валянцінак» зарабляюць вялікія грошы.

Тады я спытала: калі свята такое нядобрае, чаму яно завецца святам і чаму ўвогуле існуе? Тут тата сабраўся мне расказваць не-

шта занадта дарослае і складанае, але мама махнула рукой і спыніла яго:

— Ат, дачушка, ёсць ды і ёсць. Трэба, мабыць, нешта такое прыдумляць, каб не было ў гэты дзень сумных і пакрыўджаных…

Вось тады я і прыдумала: усім-усім у класе на наступны год трэба падарыць тыя «валянцінкі»! І самыя розныя, і не падпісваць — тады кожны будзе ведаць, што ёсць нехта сярод яго сяброў, для каго ён — найлепшы!

У мяне быў цэлы год наперадзе, але рыхтавацца я пачала адразу, на наступны дзень. Усім жа даюць крышку кішэнных грошай, вось я і эканоміла. Прасіць у мамы ці таты я не схацела, бо ж тады трэба казаць навошта. А то нашая дзіцячая праблема, нам яе самім і вырашаць. Тут на дарослых ніякага спадзеву…

Неяк хутка праляцеў год — і вось чарговае свята «валянцінак» ужо праз колькі дзён. Я накупляла ў шапіку самых розных паштовачак. Дома такой справай займацца не стала — мама ж адразу пачне пытацца: дзе ўзяла грошы, навошта яно табе трэба… Не, я давяраю маме, яна б мне і дапамагла, але мне хацелася, каб гэта было поўнай таямніцай для ўсіх. Каб ніхто-ніхто, крамя мяне адной, нічога не ведаў. А я ж нікому не скажу…

Я вырашыла застацца пасля ўрокаў у нашым класе, ён акурат пустуе. Пасяджу гадзінку — і ўсе «валянцінкі» падпішу.

Разам з усімі я пайшла ў гардэроб, апранулася, а потым, быццам нешта забылася, ціхенька паднялася зноў на другі паверх у наш клас. Зайшла — а там за апошняй партай, у самым дальнім куце сядзіць Волечка! Як дзверы адчыніліся, дык яна ажно здрыганулася, а потым пачала мітусліва хаваць нешта ў свой партфель. Няўдала тарганула рукой — і на падлогу пасыпаліся… «валянцінкі»! Многа-многа і самых розных!

Волечка падняла на мяне вочы, знерухомела. Мне стала няёмка. Я ўжо хацела папрасіць прабачэння і пайсці…

— Неўзабаве тое дзіўнае свята, — ціха сказала Волечка. — Я ведаю, як бывае балюча, калі ты не атрымаеш ніводнай «валянцінкі» ці атрымаеш іх зусім мала. Я папрасіла грошай у мамы. І вось… каб усім было… Мне што, я ўжо ведаю, дык не баюся. А раптам некаму будзе вельмі-вельмі крыўдна?

Вялікія за павелічальнымі шкельцамі акуляраў Вольчыны вочы былі такія безабаронныя, што ў мяне самі па сабе вырваліся словы:

— А я таксама хачу, каб усе-ўсе атрымалі гэтыя «валянцінкі». І вось… таксама купіла

шмат, — я ўсміхнулася і прапанавала: — Давай разам!

— Давай! — радасна адгукнулася Волечка. — Будзе цудоўна, калі ўсе атрымаюць абавязкова па дзве!

Мы з ёй узяліся за справу: высыпалі на стол усе нашы паштовачкі, Волечка дастала спіс аднакласнікаў, каб нікога не забыць. Яна паказала мне, як навучылася прыгожа і паразнаму пісаць, каб не было бачна, што падпісаў адзін чалавек. Як цудоўна яна прыдумала! А я прапанавала яшчэ цікавейшае: каб яна пісала адну літару, я — другую, яна — трэцюю, я — чацвёртую... Ніхто тады не здагадаецца, кім падпісаная «валянцінка»!

Гэта было так захапляльна: мы з Волечкай былі як сапраўдныя змоўшчыкі, у нас была свая таямніца! Мо чвэрць гадзіны прамінула, як раптам рыпнулі дзверы... Наша настаўніца!

Ганна Антонаўна — вельмі строгая. Мы яе ўсе і паважаем, і крышку пабойваемся. Яна і пажартуе, і пасмяецца, і суцешыць, але і прыкрыкнуць можа, і злоснай нават бывае.

Мы спалохаліся, быццам нас злавілі на нечым вельмі дрэнным. Падхапіліся... Ганна Антонаўна здзіўлена глядзела на нас, на стол, які быў увесь завалены «валянцінкамі»: тут падпісаныя, тут напалову падпісаныя, тут

чыстыя яшчэ, тут спіс… Фламастары рассыпаныя…

— Вы нечым занятыя? А чаму не папярэдзілі мяне, што хочаце застацца для нейкай справы? Вы хоць матулям сваім патэлефанавалі, што затрымаецеся? — спыталася яна строга.

— Вядома, Ганна Антонаўна, — адказала я, а голас так дрыжыць непрыемна. — Мы ўжо… мы закончылі… Прабачце, калі ласка… Мы вось…

Ганна Антонаўна падышла бліжэй:

— Мне здаецца, вы яшчэ якраз і не закончылі, — яна ўсміхнулася нечаканай загадкавай усмешкай. — Не прызнаецеся мне, што ў вас за справа?

— Мы… Я… Хутка гэтае свята, калі ўсе «валянцінкі» дораць адно аднаму, — блытана пачала я тлумачыць. — У мінулым годзе Волечка не атрымала ніводнай паштовачкі… І тады я… І вось Волечка таксама… Мы паасобку вырашылі ўсім-усім у класе падпісаць…

— Мне тады крыўдна было… Але ж я моцная, і мне мама тлумачыла, што гэтыя «валянцінкі» нічога па праўдзе не значаць, — падтрымала мяне Волечка. — А ўсё адно бывае крыўдна, калі ты не такі, як усе. Мама дала мне грошай, яна мяне зразумела…

— Сядайце, сядайце, — лагодна і ціха сказала нам Ганна Антонаўна. — І я вас разумею, — дадала яна, а ў вачах у яе раптам заскакалі вясёлыя агеньчыкі. — Вазьміце мяне ў сваю каманду! У мяне вось таксама «валянцінак» на ўвесь клас! Але ж мой почырк усе ведаюць, рассакрэцяць мяне. Дапаможаце?

Нам ажно мову адняло на нейкі момант. Дык і наша настаўніца гэтаксама вырашыла?

Зразумела, мы пагадзіліся! І як узяліся — хутка падпісалі ўсе «валянцінкі».

Потым мы ішлі са школы разам з Волечкай, і яна расказвала мне пра свой гурток малявання, пра тое, што ў яе ёсць маленькі брацік, а тата Волечкі — сапраўдны мастак!

А яшчэ мы разам думалі пра тое, што ў гэты самы Дзень Валянціна ў нашым класе не будзе нікога, хто застанецца без «валянцінкі». Па тры штукі абавязкова атрымае кожны!

— Па чатыры, — сказала Волечка. — А то і пабольш. Бо нехта ж таксама, як мы, падумаў, хіба не?

І праўда! Нехта яшчэ з нашых аднакласнікаў зрабіў тое ж, што і мы: трэба, каб свята было ва ўсіх.

# Човен вясковых піратаў




Вось і здарылася! Першы раз у маім жыцці я засталася адна — без мамы і таты ажно на цэлы тыдзень! У іх яшчэ не пачаўся адпачынак, а ў мяне ўжо канікулы. І вось я — у бабулі!

Мама так хвалявалася, так перажывала. І бясконца мне паўтарала такія простыя рэчы, быццам я магу на іх забыцца: што рукі трэба абавязкова мыць перад тым, як нешта есці, перад сном трэба таксама мыцца, нельга некуды ісці далёка без бабулі… Ну я ж дарослы чалавек, што тут са мной можа здарыцца? Бабуліна вёсачка ціхая, тут нават машыны амаль не ездзяць.

Тата з мамай паехалі ўвечары, і наступнай раніцай я прачнулася самастойным чалавекам. Прачнулася і слухала нягучны стук

патэльні аб прыпечак на кухні: бабуля бліны гатавала. Я устала і пабегла на кухню. Ух ты! Там, у печцы, такая вялізная дзірка, што я пралезу. А за той дзіркай такі вялізны агонь гарыць і стаяць чыгункі розныя. Бабуля бярэ гладкі шасток з нейкім кручком на канцы, хвацка чапляе ім патэльню, на якую тольκі наліла белага вадкага цеста, і ставіць патэльню на краёчкі двух чыгункоў, проста ў тое пекла! Гэты шасток бабуля называе чапельнікам, бо ім чапляюць патэльні…

Вось, здаецца, зараз тое цеста на патэльні стане зусім чорным! Але ж не! Бабуля дзівіцца, дзівіцца, а потым раз — і тым чапельнікам дастае патэльню! А на ім — блінец жоўценькі, такі прыгожы, так смачна пахне, што ажно сліна ў роце збіраецца.

— Сядай за стол, унучачка, — кажа мне бабуля, той блінец раз — і ўжо на белым ручніку, а бабуля на блінец кавалачак масла кладзе… кавалачак растае, бабуля яго відэльцам — і па ўсім блінцы… Вось такую смакату я ела сваёй першай самастойнай раніцай.

Бабуля паглядзела, як я пакутую з відэльцам, і сказала:

— Ай, Жэнечка, бяры вось так, ручкамі… ты ж іх памыла добра, — і згарнула жоўценькі, бліскучы ад масла блінец у такі цёплы і пахучы канверцік. Ну як такі ўзяць

відэльцам? Праколеш — масла ж растала, вадкае, пацячэ… То рукамі! А рукі пасля памыю…

Дзень быў сонечным-сонечным. Лета прыйшло!

Напачатку я вырашыла ўсё-ўсё агледзець на бабуліным надворку, бо раней ніяк часу не было. Я зазірнула ў хлеў. Раней, калі быў жывы дзядуля, тут стаяла карова, а ў другой палове ляжала сена, так мне тата казаў. Дзядуля памёр, калі я яшчэ не нарадзілася. Цяпер хлеў быў амаль пусты і трошку таямнічы. А на сцяне хлява, пад страхой, быў падвешаны сапраўдны човен. Невялікі зусім. Некалі даўно за вёскай былі азярына і балота. Вось дзядуля і зрабіў быў той човен. Азярыны няма даўно, яшчэ як быў тата малы, прыехалі меліяратары і асушылі тое балота. Толькі канава засталася, зусім не глыбокая, вераб'ю па калена. Я туды пазней схаджу, там, тата казаў, прыгожа цвіце лотаць.

Бабуля правяла мяне на вуліцу, паказала, як трэба націскаць на клямку, каб адчыніліся варотцы ў двор, расказала, што да суседкі прыехала таксама ўнучка…

— А вунь там, бачыш, ужо сабралася дзяцей, — паказала бабуля ўздоўж вуліцы. — Бяжы, сябруйся…

Дзеці стаялі ля лавачкі, зацікаўлена глядзелі на дзяўчынку, якая трымала на ка-

ленях вялікі-вялікі планшэт. Я падышла і сказала:

— Добры дзень! Мяне завуць Жэнька. Можна мне з вамі сябраваць?

Усе павярнуліся і паглядзелі на мяне, а дзяўчынка з планшэтам амаль загадала:

— Ты будзеш апошняя ў чарзе, пасля Цімкі. Каб рукі былі чыстыя і пасля абеду прынясеш нешта смачнае.

Тут я разгубілася:

— У якой чарзе?

— Мы зараз гуляем у піратаў. Хіба не бачыш? Хто болей караблёў захопіць, — патлумачыла мне, як маленькай, дзяўчынка. — Гэта мой планшэт, мяне завуць Яніна.

— Вось жа! — здзівілася я. — Прыехаць з горада, каб тут у планшэце сядзець? Гуляць у піратаў трэба па-сапраўднаму! Давайце!

— А ты нас не вучы, — хмыкнула Яніна. — Не хочаш — ідзі адсюль, мы цябе не гукалі!

Ну і што мне было рабіць? Крутнулася і пайшла да бабулінай хаты. Мне было і крыўдна, а больш дзіўна: хіба цікава сядзець у такі цёплы дзень і глядзець у планшэт? Столькі цікавага вакол… Прысела на лавачку пад язмінам і стала думаць: чым мне найперш заняцца? Нарабіць сакрэтаў — гэта раз, а для іх трэба назбіраць прыгожых каменьчыкаў і кавалкаў шкла. Па каменьчыкі я пайду ў ка-

нец вёсачкі — там ёсць бетонны мост над той самай канавай, там будуць каменьчыкі. Пра шкло спытаю ў бабулі. Варта зараз яе папярэдзіць, што збіраюся пад той мост…

Толькі я хацела ісці ў дом да бабулі, як бачу: да мяне шыбуе хлопчык, з тых, хто быў у чарзе, каб пагуляць у планшэце.

— Мяне завуць Сяргей, — сказаў хлопчык і спыніўся насупраць мяне.

— А чаму ты не чакаеш сваёй чаргі? — з’едліва спытала я.

— Таму што я смаркаты, — шчыра прызнаўся ён і, каб я не думала, што ён падманвае, тут жа шмаргануў носам. — Яны з мяне смяюцца. І ў мяне няма нічога смачнага дома, — без жалю закончыў Сяргейка.

— Тваю смаркатасць мы зараз вылечым, — упэўнена сказала я. — Мне мама ўсякіх лекаў надавала…

Я хутка збегала ў дом, дзе ўзяла спрэй, які мне мама пакінула. І Сяргейка папшыкаў сабе ў нос.

— Во… адразу лягчэй, — усміхнуўся ён. — Дзякуй табе. А ты надоўга прыехала?

— Пакуль на два тыдні, — уздыхнула я.

— А чаму ты ўздыхаеш? — здзівіўся хлопчык.

— Дык вось… думала, тут нечым цікавым можна разам заняцца, а ўсе сядзяць вакол планшэта, быццам толькі лета для гэтага і трэба…

— А-а, не, мне не вельмі цікава, — запэўніў мяне Сяргейка. — А як па праўдзе гуляць у піратаў? — адразу ж спытаў ён.

— А я не ведаю, — задумалася я. — На сцяне хлява вісіць стары дзядулеў човен…

— Ух ты! — загарэўся Сяргейка. — А пакажы?

І мы пайшлі глядзець човен. Сяргейка яго пакратаў і сказаў, што ён лёгкі, яго можна зняць, зацягнуць у садок пад старую грушу…

— І зрабіць пірацкі карабель! — закончыла я.

У нас будзе свой карабель!

Мы пабеглі да бабулі — трэба ж папытацца, бо хоць на чоўне ніхто даўно не плавае, гэта ж не простая рэч…

Бабуля не толькі дазволіла, але выйшла сама дапамагчы зняць човен. Ён хоць быў невялікі і сухі, але зусім не лёгкі! Без бабулі мы не здужалі б яго зняць і ў садок не зацягнулі б…

А ў бабуліным садку так файна! Тут невысокая зялёная-зялёная трава з дзьмухаўцамі, некалькі яблынь — іх нядаўна тата з мамай садзілі. А човен мы пад грушай паставілі. Груша вялікая, старая, у яе такія тоўстыя сукі! Нас відаць з дарогі праз драўляны плот, але затое і нам усё бачна.

Цяпер гэтулькі адразу работы! Трэба зрабіць штурвал, трэба мачту і ветразь, знай-

сці фарбу і падпісаць наш карабель… Вой, колькі ўсяго трэба! Але найперш — ісці да бабулі і пытацца пра ўсё.

— Рабіце сабе, што вам уздумаецца, але асцярожна, каб бяды не нарабілі, — папярэдзіла нас бабуля і адвяла ў хлеўчык, дзе было многа розных інструментаў: сякеры, малаткі, долаты, свярдзёлкі… То ўсё ад дзядулі засталося, і тата цяпер карыстаецца. Тут былі і цвікі, пра якія мы пыталіся.

— Ты, Сярожа, самастойны, амаль што мужчына, глядзі ж пальцы акуратна, — вучыла бабуля Сяргейку. — І свае дзівіся, і Жэнечкіны. Як вам якія дошкі ці палкі спатрэбяцца, дык вось тут шукайце і бярыце…

Ура! У нас цэлая майстэрня і човен, які мы будзем рабіць караблём!

Тут Сяргейка зморшчыўся-задумаўся, сказаў, каб я пачакала, і пабег некуды. Вось жа. Я-то пачакаю, але мог бы і сказаць…

Вярнуўся Сяргейка хутка. Ды які! На ім была майка-цяльняшка, а галава завязаная касынкай! Зусім як сапраўдны пірат! Я таксама вырашыла пераапрануцца і павязаць на галаву касынку. А тады Сяргейка сказаў:

— Капітанам буду я…

— А я кім? Кокам? Есці табе гатаваць? — не дала яму дагаварыць, раззлавалася я. Ты глядзі, хітранькі які: і сад — маёй бабулі, і

човен — мой, і малаток, цвікі… Як ён першы пераапрануўся, дык ужо і капітан!

— Не, ты не будзеш кокам, — сказаў мне Сяргейка, вінавацячыся. — Але жанчынам нельга быць капітанамі, будзе лёс у карабля нешчаслівы. Ты будзеш каралевай!

Ух ты, ніяк не чакала… Можа, і праўда, нельга жанчынам быць капітанам на пірацкім караблі? Не паспела я вырашыць, як тут — вы толькі ўявіце! — Сяргейка прыўстаў на адно калена, галаву схіліў і прамовіў:

— Каралева, дазвольце мне служыць на вашым караблі!

А мне і смешна, але і так… хвалююча. Устрымалася і адказала, як і ён, сур'ёзна і амаль урачыста:

— Служы мне верна і адважна, мой капітан!

— Ты мне павінна яшчэ шпагу на плячо пакласці, — прамармытаў Сяргейка і дадаў: — Ох, колькі ўсяго трэба яшчэ: і корцікі, і шпагі, і рамяні…

Устаў, і мы пачалі шукаць і думаць, з чаго зрабіць найперш мачту, як яе замацаваць…

Знайшлі добры шасток, Сяргейка ўбіў у човен чатыры цвікі… Раз, два, тры, чатыры — мы нацягнулі вяроўчыну, і наша мачта стала!

— А на мачту трэба перакладзіны. А ветразь лепш чорны! — раптам пачулася ад вуліцы.

Глядзім — а ля плота, працiснуўшы твары між калкоў, стаяць хлапчук і дзяўчынка, меншая за яго.

— Гэта Мікітка з Анютай, — патлумачыў мне Сяргейка і крыкнуў у бок дзяцей: — А ты не камандуй з боку! І дзе мы табе чорную матэрыю на ветразі знойдзем? Тут хоць бы якую адшукаць…

— А ў нас дома ёсць старая поліэтыленавая плёнка, — заспяшаўся Мікітка. — Яна падраная… трохі падраная, але ж сапраўдныя пірацкія ветразі павінны быць… ну, не цэлымі… Я магу прынесці. А Анюта вельмі файна вырэзвае. Яна б сцяжок зрабіла…

— З Вясёлым Роджэрам? — ухмыльнуўся Сяргейка.

— І зробіць! Не глядзі, што ёй толькі сем гадоў, яна ў гуртку займаецца выцінанкай, вось.

— У нас ёсць каралева карабля, — паказаў на мяне рукой Сяргейка. — Як яна вырашыць, дык… Вы ж яе прагналі ад сябе, як і мяне.

— Я не праганяў, — вінавата апусціў галаву Мікітка. — То ж не мой планшэт. Мы самі пайшлі адтуль, бо Анютка не ўмее на планшэце, ёй не даюць павучыцца. Можна нам з вамі? Мы прынясём плёнку!

А я падумала: хіба нам не цікавей будзе, калі ў нас з'явіцца сапраўдная каманда, а не адзін капітан з каралевай? І гукнула:

— Нясіце сваю плёнку — будзем рабіць ветразі! Я прымаю вас на службу!

— Мы зараз! — радасна падскочыў Мікітка, а Анютка закрычала «ўра», і яны пабеглі па вуліцы.

І хутка вярнуліся — з такімі вялікімі кавалкамі чорнай плёнкі, што нам хопіць на некалькі ветразяў і на сцягі застанецца! І абое з касынкамі на галовах. Ура, нас ужо чацвёра!

Мы з Анютай сталі выразаць ветразі, а Сяргейка з Мікітам рабіць перакладзіны на мачце.

А потым да нас прыйшоў яшчэ хлопчык — Міхась. Ён папрасіў дазволу зайсці ў садок і паглядзець, ну вось самую крышачку паглядзець… А потым сказаў, што човен можна было б падвесіць над зямлёй — вось, такі тоўсты сук грушы якраз над ім. І тады наш карабель будзе гайдацца, як на сапраўдных хвалях! А падвесіць човен Міхась можа папрасіць свайго старэйшага брата, бо ён вялікі ўжо і дужы. І тоўстая моцная-моцная вяроўка ў іх ёсць, бацька дазволіць узяць! Толькі вечарам, калі брат прыйдзе з працы. А яшчэ Міхась ведае, як і з чаго можна зрабіць сапраўдны штурвал. Ну, амаль са-

праўдны. Ён бачыў на гарышчы бабулінай хаты старую самапрадку, а там кола драўлянае з драўлянымі спіцамі, зусім як штурвал!

Мы і Міхася прынялі ў сваю каманду. І пасля яшчэ дзвюх дзяўчынак, Зосю і Аленку. Яны пачалі шукаць па вёсцы, дзе ўсе падзеліся, бо ля Яніны з планшэтам ім стала сумна… Дзяўчынкі паабяцалі прынесці фарбу, каб зрабіць надпіс — у іх у хаце фарбавалі столь і крышку засталося, а яшчэ сказалі, што ёсць вялікі кавалак матэрыі, чырвонай-чырвонай, нікому не патрэбны надта, маці ім дазволіць яго ўзяць. З той матэрыі можна зрабіць усім-усім аднолькавыя касынкі, каб была нібыта форма…

Потым бабуля прынесла нам у глыбокай талерцы цэлую горку смачных блінцоў з тварагом і малако. Мы паселі на траву ля свайго карабля, елі і гаварылі пра тое, што яшчэ трэба зрабіць: сапраўдны кубрык, каб можна было хавацца ў непагадзь, замацаваць штурвал, больш ветразяў, а яшчэ фарбаваць! І прыдумлялі назву. Так спрачаліся, а потым Сяргейка ўсіх спыніў:

— Жэнька — каралева карабля, ёй і даваць яму імя!

Я прапанавала: назву будзем выбіраць увечары, а пакуль усе падумаюць і выберуць нешта самае прыгожае.

Пасля абеду мы зноў сабраліся. Усе прынеслі з сабой полудзень — тут так смачна есці ўсім разам, на нашым караблі! А потым Сяргейка сказаў, што Яніна, тая самая дзяўчынка, у якой планшэт, сядзіць адна, самотная на лавачцы. І ў яе зусім-зусім няма настрою, той планшэт побач ляжыць.

— Ну і няхай ляжыць, — прабурчаў Мікітка. — Падумаеш, планшэт…

А я нечакана адчула сябе нібы вінаватай. Сказала, каб папрацавалі без мяне, і пайшла сама да той Яніны. Яна і праўда сядзела адна і калупала дубчыкам зямлю.

— Хадзем да нас! — адразу запрасіла я. — Чаго ты будзеш зусім адна?

— А вы мяне прымеце? — здзівілася Яніна.

— Я ж цябе запрашаю, а карабель наш — у садзе маёй бабулі, — трошку пахвалілася я.

— Але ж у мяне… няма нічога, — бадай што роспачна хлюпнула носам Яніна. — Усе нешта неслі: плёнку, фарбу, ежу… І я нічога не ўмею рабіць…

Яна была гатовая расплакацца.

— Ну вось яшчэ, распераживалася! — супакоіла я Яніну. — У тваім планшэце ёсць жа навігатар, так? — спытала я.

— Ёсць, — здзівілася Яніна. — А… навошта ён табе?

— Не мне, ён нам усім патрэбны! У нас будзе свой пірацкі карабель, а як мы без навігатара ў мора выйдзем? Хадзем з намі — ты будзеш нашым штурманам!

— Праўда? — не паверыла мне адразу Яніна. — Я вазьму з сабой планшэт і я… мы разам будзем пракладваць маршруты.

— У караблёў не маршруты. Там, здаецца, курсы, — успомніла я. — Хлопчыкі лепш ведаюць…

Хутка прыйшоў вечар. Неба было такое прыгожае, ад сіняга да светла-ружовага — там, дзе заходзіла сонца. А сонца было вялікім-вялікім, чырвоным, апускалася ў аблокі, што пасмамі віліся над самай зямлёй — там, далёка.

А наш карабель быў ужо з мачтай і трыма ветразямі: адным вялікім і двума меншымі, што ішлі ад мачты да носа. І быў Вясёлы Роджэр на мачце, а мы — уся наша каманда — сядзелі ў чоўне. Ён ужо быў над зямлёй — невысока, ледзь кранаўся густой травы, але гайдаўся так, быццам плыў па сапраўдных хвалях.

І мы плылі ўсе разам — туды, дзе такое дзіўнае вялікае чырвонае сонца, на якое зусім не балюча цяпер глядзець…

# Пра крыўду з-за радзімы



Мой тата — паэт. Праўда, ён не працуе паэтам, бо цяпер няма такіх прафесій. Мама кажа, што паэт і пісьменнік — гэта такі занятак мужчын, дзе яны могуць заставацца дзецьмі. У таты ёсць тры кніжкі з яго вершамі. Мама хоць і жартуе з занятку таты, але ж, мабыць, яе радуе, што тата піша вершы. Бо адна кніжка з вершамі таты ляжыць у яе на тумбачцы ля ложка. Я бачыла: гэтая кніжка — маме. Там так і надрукавана: «Маёй жонцы». Тату іншы раз запрашаюць у школы чытаць свае вершы перад дзецьмі. Ён і ў нашай школе быў. Мне было так прыемна тады, я так ганарылася!

Дык вось, гэта ўсё праз тату і ягоныя вершы… Але аб усім па парадку.

Мабыць, самы цікавы занятак настаўнікаў у школе, ды і дарослых наогул — прымушаць нас, дзяцей, між сабой спаборнічаць. Вось калі падумаць добра, дык у школе заўсёды ідзе нейкі конкурс, усё мы павінны змагацца між сабой, хваляваццa… А настаўнікі такія сур'ёзныя, нам тлумачаць, як важна ў нейкім іхнім педагагічна-выхаваўчым працэсе праводзіць розныя спаборніцтвы. Быццам без іх конкурсаў мы не можам самі вырашыць, хто дужэйшы, хто смялейшы, хто разумнейшы. Але што зробіш, даводзіцца ўдзельнічаць. Вось і цяпер конкурс сачыненняў на тэму «Мая радзіма». Ганна Антонаўна нам расказала, што гэта вельмі важны конкурс, што напачатку лепшае сачыненне будуць вызначаць у школе, пасля ў раёне, вобласці і нарэшце — у рэспубліцы! Вось такі важны, ну проста самы важны конкурс у гэтым годзе. Таму мы мусім вельмі пастарацца. Незвычайным быў конкурс і таму, што тое сачыненне стала называцца эсэ, а пісаць нам яго дазволілі дома. І цэлы тыдзень тэрміну!

Я вярталася са школы і думала: а што я напішу? Ну, вось што для мяне мая радзіма? Беларусь? Ну так, Беларусь — мая краіна. Але ж хіба я ведаю сваю краіну? Што я ведаю? Свой горад. Чым ён мне дарагі? Хіба тым, што тут наш дом, наша кватэра, двор,

у якім я гуляла маленькая. А яшчэ — дзіцячы садок, я кожны дзень праходжу міма яго агароджы, калі іду ў школу і вяртаюся з яе. Няўжо некалі я была такой маленькай і гуляла там у пясочніцы? І арэлі там такія маленькія, зусім дзіцячыя.

А яшчэ я ведаю бабуліну вёсачку. Там шырокая вуліца, дарога з гарачым мяккім пяском. І калі пройдзе спорны летні дождж, а лепш — залева з навальніцай, дык па дарозе бягуць ручаі, стаяць цёплыя лужыны, па якіх так файна бегаць басанож! А яшчэ ў бабулі стары сад — там дзьмухаўцы і крапіва ля плота. За агародам невялічкі лясок з бярозамі і асінамі — там светла і нястрашна.

Страшна было ў вялікім лесе, які сінее за вёсачкай. Мы хадзілі туды ўтраіх: мама, тата і я. Ніколі раней я не бачыла так многа самых розных дрэваў у адным месцы! Мы зусім трошку прайшлі ад дарогі ўглыб, а ўжо нічога не бачна — толькі дрэвы, дрэвы з усіх бакоў. І ніякіх сцяжынак і дарог… Вусцішна. Добра, што тата тут вырас і сказаў нам, што гэты лес — зусім і не вялікі, ён яго ведае, як сваю далонь. Мы з мамай яму не паверылі, але тата хутка нас пераканаў: ён так упэўнена крочыў наперад! А яшчэ ён казаў: «Зараз пабачым паляну і тры бярозы — з аднаго камля растуць… Зараз будзе нібыта сцяна з густых ялінак… Справа — самы вялікі дуб

нашага лесу…» І так было насамрэч, таму я супакоілася, і мы ўдваіх з татам сталі супакойваць маму. І яе супакоілі.

А колькі мы ўсяго пабачылі! Ягады сапраўдныя, лясныя суніцы — раз! Мурашнікі — два! Яны такія вялікія бываюць, як стажкі, а мурашы — маленькія, але іх так многа і яны так доўга ходзяць сваімі дарожкамі, што ля мурашніка сапраўдныя сцяжынкі маленькія, такія чысценькія, як падмеценыя. Мы бачылі столькі прыгожых павуцінаў, і якія ў лесе вялікія павукі з быццам намаляванымі крыжамі на спінках — гэта тры! А яшчэ тоўсты-тоўсты дуб — чатыры. І невялікае лясное возера, і дзікіх качак, крынічку сярод балаціны, да якой мы ішлі, паскідаўшы абутак, — пяць і шэсць!

Але ж нам задалі пісаць эсэ не пра лес і не пра бабуліну вёску, а пра радзіму…

Прызнаюся, напачатку я залезла ў сеціва і паглядзела, хто што піша пра радзіму, — і засмуцілася. Там усё так прыгожа напісана: пра павольныя рэкі, пра сінія вочы-азёры, пра жоўтыя палі збажыны і велічныя камбайны на іх… А што мне пісаць, калі я той камбайн бачыла толькі здалёк, бо ён усё зжаў і паехаў на іншае поле, а мы з татам толькі хадзілі па пустой пожні. Ух, я так пакалола тады свае ногі! Затое там так пахла! Вось нідзе і ніколі я не адчувала больш такога паху.

А поле было вялікім, проста бясконцым і так зіхацела пад сонцам, быццам залатое. І там было вельмі ціха. Вось і цішыні такой я нідзе больш не чула. Праўда, смешна атрымалася ў мяне: чуць цішыню немагчыма ж. Але я шчыра вам кажу: цішыню чуць можна. Яна… звініць, тоненька-тоненька. Калі вы пачуеце такі гук, значыць гэта цішыня. І звон яе такі асцярожны, такі баязлівы. Што нават калі птушачка якая заценькае, цішыня знікае…

У мяне проста галава разбалелася ад думак: я нічога не магла прыдумаць, нават першы сказ у сваім сачыненні. Ажно плакаць захацелася ад бездапаможнасці. А гэта ж на конкурс! Ды яшчэ такі важны. Я вельмі добра пішу сачыненні, мяне настаўніца заўсёды хваліць, а вось цяпер я яе расчарую…

Калі вярнуліся мама з татам з працы, яны адразу заўважылі, што я не ў гуморы. Пачалі пытацца, што здарылася. Вось дарослыя заўсёды так: ледзь ты чымсьці засмучаны, дык абавязкова павінна было нешта здарыцца. А тут якраз нічога і не адбылося, тут нічога не выходзіць. Я і расказала бацькам, што ў мяне не атрымліваецца сачыненне, бо я не ведаю, што такое радзіма…

Тады тата сказаў:

— Вось так і напішы.

— Як напісаць? Ты мне прапануеш напісаць, што я не ведаю, што такое радзіма?

— Так, — усміхнуўся тата. — З гэтага і пачні. Шчыра. Пішы тое, што адчуваеш, калі думаеш пра радзіму. Тое, пра што ты думала, калі даведалася пра тэму сачынення. Галоўнае — шчыра.

— Ага, і маё эсэ нават чытаць не будуць, — скрывілася я. — Напішу: я не ведаю, што такое радзіма, таму я напішу пра бабуліну вёску, белыя шаўкавістыя ствалы маладых бярозак у лесе, павуцінне з крыжаком у сярэдзіне і вялізны мурашнік, а ля яго — кусцік суніц, які там стаіць, быццам на мурашыным агародзе, так?

— Напішы так, — пагадзілася з татам і мама. — Напішаш шчыра, будзеш ведаць, што ты зрабіла сваю справу як умела.

— І прайграю! — адчайна запярэчыла я. — Вы паглядзіце, якія сачыненні ў сеціве пра радзіму!

— А хіба ты будзеш пісаць для таго, каб выйграць? — прыжмурыўся тата.

Тут я замаўчала. І праўда, навошта я пішу?

— А настаўніца не будзе мяне сароміць за тое, што напісала няправільна? — спытала я.

Тата задумаўся на хвілінку і адказаў разважліва:

— А радзіма… яна хоць адна на ўсіх, але ў кожнага свая. Ты напішы пра тую, якая ёсць у цябе, якой ты яе разумееш. І гэта будзе правільна. Для цябе — правільна. Гэта важней за ўсё…

І я пачала пісаць сваё эсэ. Вось як вам расказвала, так і пісала. Пра тое, як ішла дадому і думала: з чаго пачаць? Як чытала іншыя сачыненні. Пра бабуліну вёску, мой былы дзіцячы садок, свой пакой, павука-крыжака між дзвюх хвояў у сваім гамаку, кусцік суніц і адважных мурашоў, пра тое, як колецца пожня і блішчыць на ім срэбрам на заходзе сонца павуціна… Пра ўсё, што мне запала ў памяць, што я хачу яшчэ раз пабачыць, адчуць, пачуць і панюхаць…

Сачыненне атрымалася вялікае. Так баялася, калі здавала яго настаўніцы, і кожны дзень чакала — зараз яна падыдзе і скажа мне: «Ты не справілася з заданнем! Ты няправільна напісала!»

Але час ішоў, мінуў тыдзень і другі, спраў у школе столькі, што на ўсё забудзешся. І я зусім не падумала пра сачыненне, калі Ганна Антонаўна паклікала мяне. Вось, думаю, што там за размова такая пільная, каб мяне асобна бачыць?

Ганна Антонаўна была такая дзіўная: сумная, нават трошку вінаватая. І гаварыць яна пачала, быццам выбачалася:

— Жэнечка, заўтра абвесцяць вынікі конкурсаў эсэ пра радзіму. Тваё сачыненне… яно заняло не першае месца. Ты напісала вельмі добра, вельмі-вельмі, але далей у конкурсе будзе ўдзельнічаць іншая работа. Не перажывай. У цябе наперадзе яшчэ шмат перамог і паспяховых работ, я ўпэўненая.

— Ды нічога, — уздыхнула я. — Калі тое лепш напісана, дык хай яно перамагае. Я ж зусім не ведала, пра што пісаць.

— Ты напісала проста выдатна, ты напісала лепш за ўсіх, — уздыхнула і Ганна Антонаўна. — Але так вырашыла журы… Толькі ведай, Жэнечка, ты напісала лепш за ўсіх! Гэта дакладна.

— Ды нічога, не перажывайце, — супакоіла я настаўніцу. — Наступным разам я абавязкова напішу лепш, і тады пераможца будзе з нашага класа.

— Вядома, Жэнечка! — усміхнулася Ганна Антонаўна. — Так і будзе. Ты яшчэ не адзін раз будзеш пераможцай.

Я і праўда не асабліва засмуцілася. Хіба што мне стала трошку няёмка перад настаўніцай: яна, выходзіць, больш за мяне перажывала. Але потым, калі вынікі конкурсу вывесілі ў школе, мне стала крыўдна, бо маё сачыненне не ўвайшло нават у пяцёрку лепшых. Яго нідзе не ўспомнілі. Значыць, я зусім няправільна зразумела тэму! І гэта ўсё

тата вінаваты! І мама. Калі б яны не казалі мне пісаць так, як я думаю, дык я напісала б так, як у тых сачыненнях-прыкладах. Што ў нас вялікая радзіма, што ўсё ў ёй для нас, дзяцей: і садкі, і школы, і новыя кнігі…

Да канца заняткаў я была сумная. Упершыню я так вінаваціла сваіх бацькоў. Яны думаюць, што калі чалавек гаворыць і піша пра тое, што думае, дык гэта заўсёды правільна. Гэта, мажа, у жыцці правільна. А ў нас — школа і заданні…

На ганку школы мяне чакала Волечка. Мы з ёй сяброўкі, але такія, што ніхто і не здагадваецца. Быццам шпіёны. Ну, пасля таго, як усім-усім аднакласнікам рабілі разам падарункі-валянцінкі. З таго часу мы іншы раз перагаворваем крадком ад астатніх свае самыя вялікія навіны і перажыванні. Не, мне не хацелася казаць Волечцы, што я злуюся на сваіх тату і маму. Гэтага нельга іншым казаць. Але Волечка сама пачала казаць мне пра сачыненне, ды яшчэ азіралася па баках, каб нас ніхто не пачуў:

— Тваё эсэ — самае лепшае ў школе і раёне!

— А ты адкуль ведаеш? — скрывілася я, бо не трэба мне такія суцяшэнні. — Маё эсэ нават у пяцёрку лепшых не увайшло, я ж ведаю праўду.

— Гэта не ўся праўда, — заўпарцілася Волечка і зноў азірнулася па баках. — Я два дні таму была на занятках…

— І што? — нецярпліва перапыніла я Волечку, хоць гэта было непрыгожа. Але ж мне так карцела…

— Не штокай, а слухай! — прыкрыкнула на мяне сяброўка. — Я зусім выпадкова пачула. Шукала сваю работу ў шафе, а кіраўніца гуртка мяне не пабачыла. Яна зайшла ў нашу майстэрню разам са сваёй знаёмай, мабыць сяброўкай, бо яны адна да адной па імені звярталіся. Дык вось, тая сяброўка — я яе не бачыла, бо была ж за шафай, — стала расказваць, як у журы між сабой сварыліся з-за тваёй работы!

— Журы? Сварыліся? З-за мяне? — ажно прыпынілася я.

— Так, з-за тваёй работы вельмі-вельмі спрачаліся, — горача паўтарыла Волечка.

— Але чаму?

— Таму, што ўсе разумелі: тваё сачыненне самае лепшае! Усе паставілі яму вышэйшую адзнаку!

— Дык… а чаму яно не першае ў выніках? — нічога не разумела я.

— Вось і я нічога не зразумела, і мая кіраўніца таксама. А пасля яе сяброўка распавяла, як нехта з журы стаў казаць, быццам не ты напісала сваю работу, а твой ба-

цька! Ён жа паэт! І гэты з журы ўсім стаў даводзіць, што тут і сумнявацца няма чаго, і ён так добра ведае стыль твайго таты, што адразу відавочна: ты проста перапісала…

Волечка гаварыла так хутка, што я не магла яе перапыніць, хоць мне адразу захацелася закрычаць: як так можна? Я ж сама пісала!

— І ён так горача спрачаўся, палохаў усіх будучым скандалам, калі раптам што якое… І тады члены журы засумняваліся і, каб не рабіць скандалу, вырашылі не даваць табе ніякага месца. Быццам цябе і не было…

Вось тут я зразумела, што такое сапраўдная крыўда… Ніколі я не крычала на вуліцы, а цяпер не магла стрымацца, не ведаю, як так і атрымалася, але я закрычала ў роспачы:

— Я сама пісала! Сама! Кожнае слова! Тата нават не чытаў яго!

Слёзы самі пацяклі з вачэй. Я бачыла, як разгублена спынілася і глядзіць на мяне спалоханая Волечка. І нават не на мяне, а за мяне, за маю спіну.

І раптам я адчула, як цёплая далонь дакранулася да маёй галавы.

— Безумоўна, ты сама пісала, Жэнечка. Я ведаю гэта, — пачуўся ціхі голас Ганны Антонаўны.

Я не бачыла настаўніцу, бо ўсё расплывалася праз гэтыя неслухмяныя слёзы. А яна

прытуліла мяне да сябе і ўсё нешта казала… Што гэта яна вінаватая, бо толькі яна адна ведала, што я здольная напісаць самастойна вось такое эсэ, што не змагла пераканаць журы, бо рашэнне было прынятае. І што ёй самой трэба было расказаць мне пра ўсё.

— Сябры журы не маглі ведаць твае здольнасці, Жэнечка, — казала Ганна Антонаўна. — Яны паслухаліся свайго таварыша. На жаль, такое сустракалася раней, калі нехта з удзельнікаў конкурсу не зусім сумленна рабіў. Вось яны і насцярожаныя. І таму… таму, калі адзін раптам вось так засумняваўся, дык і ўсе пачалі. Яны ўсе ацанілі тваю работу як самую лепшую! Гэта ж галоўнае, Жэнечка, праўда? І ты сама ведаеш, і я ведаю, што ты напісала ўсё сама. І напісала як ніхто добра. Гэта — важна. А перамогі… Павер, дзяўчынка мая, наперадзе яшчэ столькі конкурсаў, столькі перамог! Усё яшчэ наперадзе, кажу шчыра табе. І крыўды яшчэ будуць, і будзе несправядлівасць. Але будуць перамогі. Праўда ж, Волечка? — нечакана звярнулася Ганна Антонаўна да маёй сяброўкі.

— Ну так, Ганна Антонаўна, — захвалявалася Волечка. — Я ж сама ёй хацела гэта сказаць, дык яна вось не хоча слухаць.

— Усё будзе добра, дзяўчынкі, — упэўнена закончыла Ганна Антонаўна. — Гэта я вам дакладна кажу, бо сама пыталася.

— У каго вы пыталіся? — здзівілася я так, што на нейкі момант забылася пра сваю крыўду.

— У сваёй бабулі, — рассмяялася Ганна Антонаўна. — Яна ўмела лячыць людзей ад розных хваробаў травамі і словамі, тлумачыць сны і прадказваць будучыню. Вось яна і сказала, што ўсё будзе добра. Трэба толькі, каб кожны дзень мы самі імкнуліся завяршыць нечым добрым. Вось каб так было, я запрашаю вас у кавярню — мы разам пачастуемся марозівам! Толькі папярэдзьце сваіх матуль. Згодныя?

Мы з Волечкай пагадзіліся. Няхай у нашай настаўніцы дзень закончыцца добра.

А вінаваты ва ўсім тата. Бо ён паэт. Але я не буду яму расказваць пра гэтую гісторыю. Бо ён жа не вінаваты, што ён паэт, — так некалі сказала мама. Толькі маме раскажу. Каб яна ведала, што маё сачыненне ўсё адно самае лепшае, хоць яно і не перамагло. А яна тады ціхенька скажа тату, што ён мне правільна параіў пісаць. Бо калі пішаш пра тое, пра што думаеш і што любіш, — тады напішаш пра радзіму.

# Самае складанае заданне




Вось і пачаўся новы навучальны год. У нашым класе — новенькі, Кастусь, і яго пасадзілі са мной разам. Ён мне зусім не падабаецца. Маўклівы, нейкі засяроджаны ўвесь час, як дзядок стары, смешны… У яго ні на што часу няма: ледзь урокі скончацца, хутчэй дадому бяжыць. І прыходзіць у школу пазней за ўсіх. Вось і сёння званок празвінеў, сцішыўся клас у чаканні настаўніка, а Кастуся няма. Я не таму перажываю, што нешта здарылася з ім. Што з ім можа здарыцца? Проста я прывыкла, каб усё заўсёды ішло па сваім звычным коле.

Кастусь уляцеў у клас, запыханы, расхрыстаны, чуб у розныя бакі тырчыць. А за ім і настаўніца беларускай мовы і літарату-

ры Вольга Іванаўна адразу зайшла. І нават заўвагу яму не зрабіла.

А то ж, ведаю, Кастусь — яе любімчык. Нікога больш яна так не хваліць, як Кастуся, за напісанне дыктантаў. І мяне не хваліць так, хоць я — выдатніца.

Затое ў гэтага Кастуся бываюць і «шасцёркі», і «пяцёркі» па матэматыцы. Падумаеш, дыктанты добра піша. А прыклады рашаць куды складаней! Кастусь, калі рашае, задумваецца надоўга, хутка-хутка і смешна шкрабае ручкай за вухам. Піша, крэсліць напісанае, жах, што на старонцы робіцца!

Матэматыка — другім урокам. Там такі складаны прыклад у дамашнім заданні быў! Толькі званок на перапынак празвінеў, Кастусь павярнуўся да мяне і нечакана вінаватым голасам папрасіў:

— Слухай, дай матэматыку спісаць, а?

Я аж вочы акругліла. Як так — спісаць? Як можна? Я ніколі і нікому спісваць не даю, усе ведаюць. Няўжо ён зусім не разумее, што спісваць — гэта падманваць настаўніцу? А яшчэ горш — даваць спісваць, бо ты сам дапамагаеш падманваць.

— Не дам, — ціха, але цвёрда адказала я і адразу адвярнулася, бо аж няёмка стала ад таго адчаю, які ў вачах Кастуся пабачыла.

Але ён быццам і не чакаў іншага адказу, сеў, сшытак дастаў, разгарнуў. Я крад-

ком глянула — а там нават слоўца аднаго не напісана! Дык ён і сшытак не даставаў дома! Вось жа…

Наталля Дзянісаўна вельмі строгая і патрабавальная. Ух, як яна не любіць, калі дамашняе заданне не выконваюць! І вось толькі глянула ў сшытак Кастуся, адразу ўсё зразумела.

— Кастусь, што здарылася? У цябе ж і так не вельмі добра ідуць справы… Ты нават не пачынаў рашаць! — абурылася настаўніца і паставіла «двойку» яму ў сшытак.

А мне — чарговую «дзясятку». Вось так!

Але неспадзявана радасць некуды знікла… Не, я ні кропелькі не сумнявалася, што паступіла правільна, калі адмовіла Кастусю. Ды было чамусьці прыкра. Я цішком пазірала на суседа. Кастусь быў вельмі засмучаны, яшчэ больш сцішаны, амаль не ўзнімаў вачэй, а калі рашаў прыклады, задумваўся, але не чухаў, як звычайна, за вухам, а засяроджана грыз ручку…

І да канца заняткаў ён ні з кім не загаварыў, на перапынках не бегаў.

Я не адчувала сябе вінаватай, але мне так хацелася пагаварыць з Кастусём… Ён жа павінен разумець, што даваць спісваць — гэта таксама падманваць настаўніка…

Настрою зусім не было, і я сумная прыйшла дадому. Раптам упершыню за ўвесь час

мне захацелася проста легчы і паляжаць на канапе, пагартаць кніжку, а не рабіць тое, што звычайна раблю па распарадку.

Мама адразу здагадалася, што нешта здарылася. Спытала.

— У мяне сёння хлопчык папрасіў спісаць дамашняе заданне. А я адмовіла, — ціха прызналася я.

— Ну і малайчына, — пахваліла мама. — А чаму так сумна кажаш?

— Яму настаўніца «двойку» паставіла. Атрымліваецца, з-за мяне.

— Нічога не атрымліваецца, — усміхнулася ласкава мама, абняла, прыціснула да сябе. — Падман не ратуе… Ён сам вінаваты. Дарэчы, хто гэта?

— Мой сусед, новенькі наш, Кастусь Рымша.

— Дык вось яно што…

— А што? — насцярожылася я.

— Ды не… нічога, — супакоіла мама. — Не перажывай. Ты ўсё зрабіла правільна. Думаю, ён разумны хлопчык і на цябе не крыўдуе.

— Разумны… Ты так кажаш, быццам яго ведаеш.

— Не, не ведаю, але яго маці працуе ў суседнім аддзяленні. У твайго Кастуся дома яшчэ дзве маленькія сястрычкі-блізняткі. Вось ён такі і сур'ёзны.

— Я не вінаватая, што вы нікога не нарадзілі больш! — выкрыкнула я з крыўдай. Бач, мама з такой павагай кажа пра гэтага Кастуся, а ён дамашняе заданне не выконвае! Мне так крыўдна стала, што слёзы самі пацяклі з вачэй.

Пабегла ў свой пакой і ўпала на канапу тварам у падушку. Ну што сёння за дзень такі! Так прыкра, а чаму — не ведаю. І мама не заходзіла, не суцяшала. Атрымліваецца, я сапраўды вінаватая, што Кастусь атрымаў «двойку»?

Я не заўважыла, як заснула. Прачнулася, калі асцярожна рыпнулі дзверы пакоя, але вочы не расплюшчыла.

— Спіць? — пачула я ціхае пытанне мамы з калідора.

— Ага, спіць, здаецца, — гэтак жа ціха адказаў татаў голас, прычыніліся дзверы. — А што здарылася?

— Ой, перажывае надта… Не дала спісаць хлопчыку, суседу. Таму паставілі «двойку».

— Ну дык і правільна ж зрабіла. Лайдака падсадзілі да дзяўчынкі…

— Ды я сказала, што правільна зрабіла… Хлопчык не лайдак. Яго маці ў нас працуе. Муж далёка ў камандзіроўцы. У сям'і яшчэ дзве дзяўчынкі па тры гадкі… Учора нечакана ў Святланы — гэта іх маці — уз-

няўся ціск на працы. Давялося выклікаць хуткую, яе шпіталізавалі. Дык ўчорашні вечар Кастусь быў сам за гаспадара. Кашу сястрычкам варыў, спаць укладваў, у садок збіраў. Сёння толькі прыехала яго цётка, сястра Святланы…

Я ўсё чула. І стала яшчэ больш крыўдна…

Назаўтра ў школу мне ісці было так цяжка. Я не ведала, як сустрэнуся, як загавару з Кастусём. Ніколі мне не было так няўтульна за сталом. Чакала Кастуся і баялася: прыйдзе… а раптам не загаворыць, а яшчэ горш — сядзе на вольнае месца, не захоча са мной сядзець. Што тады рабіць? І што яму сказаць?

Кастусь не спазніўся сёння і выглядаў весялейшым, чым учора.

— Добрай раніцы, — першы прыязна павітаўся ён са мной, уважліва паглядзеў і нечакана шчыра ўсміхнуўся: — Ты не думай, я зусім не крыўдую і не злуюся на цябе… Ты правільна зрабіла. Проста я зусім разгубіўся ўчора…

— Як твая мама? — ціха пацікавілася я. — Ёй лепш?

— А ты ведаеш? — здзівіўся Кастусь. — Дзякуй, лепш. Яе хутка выпішуць.

— Я... магу табе памагчы з прыкладамі, — прапанавала я і адчула, што злёгку чырванею.

— Дзякуй! — шчыра адказаў Кастусь і ўсміхнуўся. — Якраз хацеў цябе папрасіць аб гэтым. Як ты ўгадала?

Я толькі ўсміхнулася яму ў адказ і міжволі прыслухалася да сябе: незвычайная палёгка, радасць і адчуванне таго, што ўсё вакол добра-добра, поўнілі мяне.

# Шэрая каманда



Усе адразу вам скажуць: першая змена ў летніку — самая нецікавая. Чаму? Ды таму, што ў першую змену адпраўляюць тых дзяцей, якіх больш няма куды падзець, бо ў бацькоў адпачынак яшчэ не пачынаўся, нешта не спланавалася, не склалася. Вось нас, такіх няшчасных, і спіхваюць у летнік у першую змену. Гэта ў другую ці трэцюю ўжо дамаўляешся з сяброўкамі, прыязджаеш — і адразу ёсць з кім бавіць час і прыдумляць розныя штукарствы, каб не было сумна.

Мне гэтым летам не пашанцавала: бабуля занядужала, і яе на тыдзень паклалі ў лякарню, у мамы і таты адпачынак толькі праз месяц — вось і патрапіла я ў першую змену.

У летніку я ўжо адпачывала аднойчы. І шчыра вам скажу, было не надта цікава, бо неяк так атрымлівалася, што не мы самі

прыдумлялі, чым нам заняцца, а важатыя — і нам заставалася адно ўдзельнічаць у розных іх конкурсах ды забавах… А я б сама хацела нешта прыдумаць. Як зірнеш вакол сябе: гэтулькі сяброў і сяброўак — тут такое можна ўтварыць!

А яшчэ вось не ведаю чаму, але ці не ў кожным атрадзе бывае адна ці дзве дзяўчынкі, якія застаюцца самотныя, не заўважаныя нікім. Яны ні з кім не сябруюць, ціхія і баязлівыя. Зразумела, гэта тыя самыя шэрыя мышкі. Яны і ў кожным класе ёсць, але там неяк прасцей, а вось у летніку, дзе на кароткі час усе збіраюцца разам, дзе хутка-хутка трэба знаёміцца, паказваць самыя розныя свае здольнасці, такім дзяўчынкам цяжка.

Вось і цяпер у нашым пакоі — шасцёра. Чатыры дзяўчынкі, як і я, звычайныя. А адна, Кацярына, як сказала б мая мама, — тыповая шэрая мышка: хударлявая, тварык невыразны, апранутая сціпла, нават валасы ў яе сабраныя ў тонкі хвосцік ззаду. Толькі імя сваё назвала, адразу села ў куточак, дастала свой букрыдар — электронную кнігу — і ўжо чытае. Ніхто і нішто яе не цікавіць. Мы з дзяўчынкамі ў першы ж вечар вырашылі размаляваць сябе вампірамі ды ведзьмамі.

— Кацярынка, — гукнула я нашу шэрую мышку. — Давай да нас, мы з цябе мёртвую царэўну зробім.

— Ат, не чапай ты яе, — запярэчыла адна з дзяўчынак, Таццяна, і распавяла: — Кацьку нашу нікуды не выцягнуць, яна баязліўка і нічога не ўмее!

Кацярынка ў сваім куточку толькі пачырванела, але не азірнулася нават. І тады я падумала…

Падумала пра тое, што ў кожным пакоі вялікага нашага летніка ёсць свая шэрая мышка. Так заўсёды бывае: сярод шасці дзяўчынак знойдзецца адна, самая сціплая, самая баязлівая, якая сярод незнаёмых робіцца яшчэ больш сціплай, яшчэ больш баязлівай.

Пасля сняданку ў нас быў вольны час, я падышла да Кацярынкі, узяла яе за руку і кажу:

— Пайшлі са мной!

Яна паглядзела на мяне разгублена, нават трошку са страхам. Але я паўтарыла знарок шэптам:

— Пайшлі… пагутарыць трэба, справа ёсць важная!

Ля нашага спальнага корпусу рос вялікі-вялікі куст бэзу. А за тым кустом — яшчэ многа кустоў, як стагі. Там заблукаць нават можна. Але калі ісці і ведаць, куды ідзеш, дык там, сярод кустоў, такая патаемная палянка ёсць! Вельмі ўтульная.

— Пойдзем у разведку! — рашуча пацягнула я за руку Кацярынку.

Ішлі мы асцярожна, каб надта не пакідаць пасля сябе слядоў. Вось і паляна... От жа, колькі тут крапівы нарасло...

— Бачыш? — спытала я Кацярынку.

— Бачу, — ціха адказала яна. — А што?

Я патлумачыла:

— Тут крапіва. Калі крапіву парваць, дык будзе добрая паляна. А калі будзе добрая паляна, дык будзе выдатнае месца для нас.

— Для каго — для нас? — зацікавілася Кацярынка, і — вось паверце! — яе вочы заблішчалі.

— Для нас з табой! — выгукнула я. — І яшчэ для некага. Але іх усіх трэба сюды прывесці.

— Каго ўсіх? — здзівілася Кацярынка.

— Як каго? Усіх-усіх шэрых мышак нашага летніка! Мы збяромся разам — і ў нас будзе свой атрад, з адных шэрых мышак, у якім асобных шэрых мышак не будзе! Зразумела? Хочаш быць у такім атрадзе? Пайшлі?

— Пайшлі... — амаль ужо радасна адказала Кацярынка.

І мы з ёй пайшлі па атрадах летніка. Заходзілі ва ўсе пакоі да дзяўчынак і проста пыталіся:

— У вас ёсць шэрая мышка? Хто шэрая мышка?

Так да нас далучылася Ліза — паўнаватая дзяўчынка з дзвюма коскамі, у акулярах і з рабаціннем на твары, Галінка — маленькая, з самага малодшага атрада, такая баязлівая, што мне давялося трымаць яе ўвесь час за руку. А яшчэ Марыйка, Алёнка і самая старэйшая — Зося. Яна на цэлую галаву вышэйшая за мяне, і з выгляду такая дужая, а вось жа — шэрая мышка.

Мы ўсе разам прыйшлі на нашу сакрэтную паляну. І там я сказала, што хоць усе мы ў атрадах, хто ў «Ружовым», хто ў «Чырвоным», але ствараем свой атрад «Шэрая мышка»! Гэта будзе наш таямнічы атрад, у якім усе будуць роўныя і кожны будзе бараніць кожнага ад усіх астатніх з іншых атрадаў. А яшчэ я патлумачыла:

— Мне таксама страшна бывае. Але страх — ён жа адзін, а нас вунь колькі многа! То на кожнага прыпадае зусім па трошку, праўда ж? Я некалі была ў дзіцячым садку каралевай мышак і так раззлавалася, што напужала ката! — распавяла я пра даўнюю гісторыю. — А калі мышак многа, хто з імі справіцца? Калі хто са мной згодны, давайце рваць крапіву!

Усе згадзіліся!

Гэта было нашае першае сапраўднае выпрабаванне. Крапіва была высокай, такой джгаючай! Марыйка выявілася сапраўднай вясковай гаспадынькай. Яна сказала, што напачатку трэба набраць вялікіх лістоў лопуху, пасля наша Зося будзе палкай нахіляць крапіву, а астатнія — ірваць!

Праз паўгадзіны у нас была чыстая ад крапівы паляна. Але як мы ні стараліся ірваць асцярожна, усё адно пастрыкаліся, рукі ў пухлінках, чэшуцца… Тут Алёнка павольна, але аўтарытэтна прамовіла:

— Месцы апёкаў мурашынай кіслатой трэба прамыць халоднай чыстай вадой.

Мы аж забыліся на рукі ўсе.

— А пры чым мурашы да крапівы?

— А пры тым, — адказала Алёнка. — У маленечкіх іголках крапівы такая ж кіслата, як і ў мураша. Я чытала, вось… —засаромелася і дадала: — У мяне мама доктар.

— А я ведаю, як адсюль прайсці незаўважна да ручая, — хітравата ўсміхнулася наша Зося. — Я ж летась тут была…

І мы крадком пайшлі, хаваючыся ў кустах бэзу, да недалёкага ручая. Халодная вада лекавала нашы рукі…

Пасля мы сядзелі на паляне і расказвалі кожная пра сябе, без сарамлівасці, — бо мы ж усе былі сарамлівыя! — хто што ўмее рабіць, што лепш ведае, як каму жывецца…

У гэты ж дзень мы сабраліся зноў, і было столькі розных прапаноў!

Па-першае, мы вырашылі хадзіць у аднолькавых шэрых саколках. Іх сёння ж вечарам можа прывезці тата Лізы — ён прадпрымальнік, у яго магазін адзення! А грошы мы збяром пасля, папросім у бацькоў. Па-другое, на гэтых саколках будзе малюнак мышкі — трафарэт зробяць Кацярынка і Галінка, фарбу знойдзе Зося. Па-трэцяе, я прызналася дзяўчынкам, што займаюся дзюдо і буду вучыць усіх прыёмам. Усе так узрадаваліся!

Так у нас атрымаўся наш «Шэры» атрад. Сапраўдны! Праз дзень мы ўсе разам у сваіх шэрых саколках з выявамі мышак на спінах разам пайшлі ў сталоўку і разам селі за адзін стол. На нас так усе дзівіліся, быццам мы былі іншапланецянкі! А яшчэ мы папрасілі бацьку Лізы, і ён нам прывёз шэрыя бейсболкі — і на іх таксама намалявалі мышак!

Увесь вольны час мы былі цяпер разам, і нам было цікава! Марыйка так многа ведала пра ўсе навакольныя расліны, Алёнка вучыла нас лекаваць розныя драпіны, без якіх не абысціся ніяк, Зося чытала вершы, Галінка магла за паўгадзіны намаляваць на любую з нас такі вясёлы шарж! І мы гулялі ў розныя гульні. А перад вячэрай у нас быў самы сур'ёзны час — я вучыла дзяўчынак, як бараніцца ад хуліганаў самымі простымі

прыёмамі дзюдо: падсечкай, падножкай, кідком праз бядро…

І яшчэ мы дамовіліся вось пра што: калі некаму з нас спатрэбіцца дапамога, няважна якая, калі хтосьці апынецца адзін і стане страшна, дык трэба гучна крыкнуць: «Мышы!»

Я нават і не думала, што мне першай давядзецца клікаць на дапамогу. Размаўляла з мамай па тэлефоне і затрымалася, калі вярталіся са сталоўкі, вось і засталася зусім адна без сваіх мышак. Ішла ў свой спальны корпус, каб пераапрануцца для заняткаў дзюдо, а мяне перастрэлі…

Два браты-хуліганы, Віцька і Вадзім. Я не перабольшваю, яшчэ ў мінулым годзе яны тут былі, гэткія ж шкадлівыя. Нават бацькоў начальнік лагера выклікаў: важатых не слухаюць, меншых крыўдзяць, да дзяўчынак чапляюцца, зневажаюць. Па праўдзе, я іх пабойвалася, бо старэйшы — Вадзім — амаль дарослы ўжо, удвая за мяне цяжэйшы будзе, а некалі, ведаю, ён таксама дзюдо займаўся, але трэнер яго выгнаў за парушэнне дысцыпліны. Мы з ім, атрымліваецца, у розных вагавых катэгорыях… Не, мне з ім нічога не зрабіць…

— Наша шэрая каралева лапкамі перабірае! — выскаліўся Вадзім. — Ну, мышаня, кажуць, ты медалік на спаборніцтвах завая-

вала? А пакажы прыёмчык, га? А то я ўжо забыўся…

— Сыдзі з дарогі, — ціха прамовіла я, а ў самой усё ўнутры сціснулася. Так непрыемна гэта… А вакол яшчэ хлапчукі прыпыніліся, дзяўчынкі, стаяць, дзівяцца: не надта весела ў летніку, тут любое здарэнне — цікавасць вялікая! І ніхто ні слоўца не збіраецца сказаць, такія твары ва ўсіх… І баяцца, ведаю. Усе ў летніку ведаюць пра братоў-хуліганаў і баяцца іх…

— Гы, Вадзік, глядзі, якая бейсболка файная! — да мяне пацягнуўся меншы з братоў, Віцька. — Я такую даўно хачу… Маляўка шэрая, дай панасіць, а?

— Яна мне дасць, не цягні рукі, дурань, — спыніў брата Вадзім. — А то схопіць за руку і бразне прыёмчыкам… Што, шэранькая, дасі бейсболачку панасіць?

Я азірнулася бездапаможна… Важатых не відаць. Іх заўсёды не відаць, калі яны так трэба! Але не клікаць жа іх, я ж не маленькая…

— Ну, шэранькая, дай шапку, — Вадзім наблізіўся, і я раптам успомніла: шэранькая я не адна!

— Мышы! Мышы!!!

Вадзім аж вочы вылупіў ад неспадзеўкі — якія мышы, дзе? Глядзіць то на мяне, то сабе пад ногі, лыпае вачыма.

І раптам… Ён ад штуршка ў спіну ледзь не паляцеў потарч. Гэта наша Зося, яна амаль роўная з ім ростам, так яго пхнула з усяго разбегу. А твар чырвоны, рашучы, злосны! Стала са мной поруч, кулакі сціснула. І адразу Алёнка прыбегла — і да нас, і маленькая наша Галінка, і Ліза, і Кацярынка, і Марыйка. Усе! І мы сталі плячо ў плячо.

— Ды ну іх! — сказаў разгублена Вадзім да брата, — пайшлі, наляцела малышня…

І яны пайшлі, а ўсе астатнія, што моўчкі стаялі вакол, глядзелі на нас, дзяўчынак у шэрых саколках, быццам мы зрабілі нешта такое незвычайнае… А я ўскінула руку і крыкнула весела і пераможна:

— Шэрыя мышкі!

І не згаворваліся раней, а само сабой атрымалася — усе дзяўчынкі побач ускінулі таксама рукі і выгукнулі:

— Жывем!

І мы пайшлі разам па дарожцы, а перад намі так паважліва расступіліся…

Калі я пераапранулася ў спартыўную форму — нас жа чакалі заняткі па дзюдо — і выйшла з пакоя, пабачыла дзвюх незнаёмых дзяўчынак у калідоры. Яны чакалі мяне, бо адразу ж павярнуліся і крочылі насустрач:

— Жэнька, вазьмі нас у свой атрад…

— Вазьмі, калі ласка… мы і саколкі ўжо такія ж набылі… І бейсболкі ёсць…

Я аж разгубілася.

— Дык я не камандзір, гэта не я вырашаю. І не думалі мы пра гэта…

— Ты — каралева шэрых мышак, — запярэчыла адна дзяўчынка.

— Мы пыталіся ў твайго атрада, — паспяшалася дадаць другая, — нам усе сказалі: ты каралева, ты вырашаеш…

— Ай, хадземце да ўсіх, там разбяромся! — адказала я.

І пакуль мы ішлі да нашай паляны, успомніла, як падумала ў дзіцячым садку пра каралеву мышак: быць каралевай — гэта ў першую чаргу быць адказнай.

# Каменьчык на дваіх



Калі сонца хаваецца за скалой, у мора быццам нехта налівае зялёна-сіняга атраманту — такі густы колер вады, што яна сама нібыта гусцее, і хвалі коцяцца павольна, ляніва напаўзаюць на апусцелы бераг, не шумяць, як днём. Мора адпачывае… Мне цяпер хочацца глядзець толькі на мора. І больш нічога не хочацца. Зусім. Сядзець і глядзець. І маўчаць…

І Янка маўчыць. Калі правільна, дык трэба казаць — Янко, бо ён славак, а не беларус. Але мне было цяжкавата казаць так, і Янка нікольку не пакрыўдзіўся, калі я пачала называць яго па-беларуску.

Дык вось Янка таксама маўчыць. Ён ужо стаміўся азірацца па баках, шукаючы хоць нешта, што магло б мяне зацікавіць, ста-

міўся прапаноўваць і чуць маё «не хачу». У яго трохі вінаваты выгляд, ён, мабыць, лічыць, што мой настрой — з-за яго, што ён не ўмее, не можа развесяліць мяне ці зацікавіць нечым. Мама ці то смехам, ці то сур'ёзна сказала была, што Янка — сапраўдны мужчына і кавалер, хоць усяго на год за мяне старэйшы. І што ён вельмі адказны за тых, хто з ім побач: за маму сваю, за маленькую сястрычку ці вось за мяне…

У мяне дзіўная мама… Яна ўвесь час кажа, што нашы думкі матэрыяльныя, быццам калі пра нешта многа думаць і вельмі гэтага хацець, дык яно абавязкова будзе. Тата пасмейваецца з яе цішком, а мама горача даводзіць: у што верыш, тое і будзе! Трэба верыць і імкнуцца — і тады мары здзяйсняюцца.

Мама так і сказала перад тым, як мы паехалі на мора: вось, я ж марыла пра тое, што ўбачу Адрыятычнае мора, — і ўбачу!

Тут не паспрачаешся. Мы якраз на Адрыятычным моры… А ведаеце, што самае цікавае на моры для мяне? Каменьчыкі! Божухна, тут іх столькі! Якія яны розныя, якія сустракаюцца прыгожыя — проста вочы разбягаюцца! Мы з мамай калі прыйшлі першы раз на пляж, я быццам прырасла да берага. Выбірала, перабірала, адбірала самыя прыгожыя з прыгожых, потым з са-

мых прыгожых — найпрыгажэйшыя, а іх усё роўна было так многа! Я ўвесь час бегала да мамы і паказвала ёй чарговую сваю знаходку: «Дзівіся, які прыгожы!»

Вось з-за каменьчыкаў мы і пазнаёміліся з Янкам. Дакладней, не з-за каменьчыкаў, а з-за нашай беларускай мовы. Мама Янкі, ён сам і яго маленькая сястрычка размясціліся на пяску побач з намі. Яны так зацікавіліся, як мы з мамай размаўляем, што мама Янкі не вытрымала і звярнулася да нас на быццам беларускай мове, але такой незвычайнай!

Мы здзівіліся. Бо нібыта на адной мове размаўляем, але ж — не! І пасля смяяліся, калі даведаліся, што яны славакі, а мы беларусы. Нашы мовы такія падобныя, што мы лёгка паразумеліся. Вядома, шмат было слоў незразумелых напачатку, але дастаткова было ці то націск пераставіць, ці то паўтарыць два-тры разы, падказаць…

Мама Янкі — настаўніца, але яны амаль нічога не ведаюць пра Беларусь. І я расказвала Янку пра нашу краіну, а Янка мне — пра сваю.

Калі Янка пабачыў, што мне вельмі падабаюцца каменьчыкі, ён спытаўся дазволу ў сваёй мамы, у маёй і прапанаваў мне пайсці трошку далей, туды, дзе не было пляжа, дзе камяні і скала навісае над самай вадой. І мы пайшлі. І Янка паказаў мне сапраўдную

кварцавую жылу ў скале! Кварц — гэта такі камень, амаль празрысты, з яго і ўпрыгажэнні робяць! Янка мне адбіў невялікі кавалачак. А мне так спадабалася хадзіць па вялікіх камянях: трошку небяспечна, я спачатку губляла раўнавагу, і Янка мяне падтрымліваў за руку, перасцярагаў, дзе які камень будзе коўзкі, які можа варухнуцца пагрозліва пад нагой. І мы ішлі з ім па камянях — Янка наперадзе, я за ім, трымаючыся за яго руку…

А потым мы лавілі крабаў! Калі Янка паказаў мне першага маленькага крабіка, я так радавалася! Быццам няўклюдны, а ў вадзе такі ўжо прыткі! Мы злавілі аднаго і прынеслі паказаць нашым мамам і сястрычцы Янкі, а пасля адпусцілі крабіка назад пад камяні.

Янка ўмее ныркаваць глыбока-глыбока! Якія цікавосткі даставаў ён для мяне з глыбіні! Я ніколі раней не бачыла такіх вялікіх і прыгожых ракавінак: белыя, блакітна-ружовыя, аранжавыя з палоскамі… А яшчэ — марскі агурок. Толькі ён брыдкі, нейкі паўмёртвы… А потым Янка паказаў мне сапраўдных актыній, праўда, маленькіх. На іх так цікава глядзець: вада празрыстая-празрыстая, і яны там проста як кветачкі на дне… Я нават пабачыла сапраўднага марскога вожыка! Ён такі пацешны, здаецца, іголкі варушацца асобна ад вожыка. І ўвогуле гэты вожык — адныя іголкі і роцік!

Потым мы сядзелі на вялікім плоскім камені далёка ад берага. Я боўтала нагамі ў вадзе, а да маіх ног падплывалі маленькія рыбкі — сардзінкі. Яны так зіхацелі ў празрыстай вадзе, былі такімі прыгожымі… І сонца было асляпляльным, вада калыхалася, заварожвала, сярод камянёў поўзалі маленькія крабы. А побач сядзеў Янка і пільна назіраў за мной, бо яго мама сказала, што ён цалкам за мяне адказвае…

Я ледзь змагла заснуць у сваю першую ноч на моры. Столькі ўражанняў, столькі ўсяго новага!

А назаўтра мы прыйшлі на пляж, але Янкі і яго мамы з сястрычкай не пабачылі. Увогуле там было шмат людзей, мы доўга шукалі сабе месца бліжэй да вады. Знайшлі, але… мне было трошку сумна.

Тады я пайшла да таго каменя… таго самага, дзе мы ўчора сядзелі з Янкам, калі стаміліся. І не паспела я дайсці, як пабачыла Янку: ён, спрытна пераскокваючы з каменя на камень, набліжаўся да нашага з ім месца. Мы павіталіся і ўсміхнуліся адно аднаму. Я ж бачыла, што Янка рады мяне бачыць, і мне было самой радасна пабачыць яго, а яшчэ было радасна ад таго, што і яму радасна… Вось, заблыталася я зусім…

— Там е місто! — паказаў Янка некуды на бераг і паклікаў нас за сабой.

Вось так мы сталі сябраваць.

Ой, колькі мы ўсяго пабачылі разам! Нашы мамы адпускалі нас лазіць невысока па скалах: там так незвычайна! Янка прынесіў маску, мы нырцавалі на глыбіню і выглядвалі на дне розныя цікавосткі. Палявалі на крабікаў, шукалі прыгожыя каменьчыкі, будавалі для сястрычкі Янкі горад з пяску… Яшчэ мы разам нанялі лодку з рыбаком і хадзілі раніцай у адкрытае мора лавіць сапраўдную, вялікую рыбу! Ух! Я сама злавіла тры вялікія рыбіны! У нас такая ў краме прадаецца, скумбрыя называецца. Але ў краме яна непрыгожая, а тут — бліскучая, быццам са срэбра! І Янка злавіў некалькі такіх рыбін, і нават нашы мамы! І пасля мы разам смажылі сваю злоўленую рыбу, частаваліся, елі — колькі хацелі!

А ўвечары мы шпацыравалі разам уздоўж берага мора. Гэтулькі людзей! Весела, агні паўсюль, усюды смачна пахне, з усіх куткоў цябе клічуць: заходзьце да нас, купіце ў нас! Мы куплялі марозіва і напоі, куплялі сувеніры, дзівіліся…

А яшчэ ў нас з Янкам быў наш камень, той самы, на якім мы адпачывалі ў першы дзень. Камень быў далекавата ад берага, тут было глыбока нават, таму Янка заўсёды трымаў мяне за руку. Бо ён хваляваўся. Ён жа адказваў за мяне…

Мы любілі сядзець там, калі сонца хілілася да мора, хавалася за скалой, што была за нашымі спінамі. Камень быў цёплым, а Янкава рука — дужай. Там я вучыла Янку беларускай мове, а Янка мяне — славацкай. І мы смяяліся, калі я ці ён забаўна паўтаралі нязвыклыя для вымаўлення словы.

…Мы сядзім на камені, а мне не проста сумна. Нешта незразумелае замінае мне глядзець на мора і далёкую скалу, блытаюцца думкі, і я не ведаю, пра што думаць. І вельмі крыўдую на сябе, бо з-за майго незразумелага настрою, з-за маіх капрызаў замаркоціўся Янка.

Я не маленькая дзяўчынка, і мама казала мне не аднойчы, што трэба трымаць сябе ў руках, падпарадкоўваць свой настрой. Я вызваляю руку з-пад Янкавай далоні, кладу зверху сваю і ціха прызнаюся:

— Ты не перажывай, ты не вінаваты, што я цяпер такая… Проста мне ніяк не верыцца, што заўтра не будзе мора, гэтага берага, гэтага каменя…

Так, заўтра не будзе. Нічога не будзе. Бо заўтра мы з мамай ад’язджаем. Ранараненька. Янка ведае пра гэта.

— Будэ смутнэ бэз тэбэ, — трошку хрыпата кажа ён.

Я рэхам адгукаюся, кажу на сваёй роднай мове, бо мы так заўсёды робім з Янкам, каб

даведацца, ці правільна разумеем адно аднаго:

— Будзе сумна без цябе…

Янка зазірае мне ў вочы і нясмела ўсміхаецца, быццам просіць не сумаваць:

— Там інтэрнэт…

— Ёсць сеціва, — уздыхаю я і кажу: — Не люблю. Там… быццам несапраўднае.

— Прэчо? — здзіўляецца расчаравана Янка.

— Таму, — ціха адказваю я. — Мама расказвала, раней людзі пісалі адзін аднаму лісты. Сваёй рукой, на паперы. І калі чалавек атрымліваў такі ліст, ён бачыў, як нехта пісаў. Там нават пах заставаўся…

Янка асцярожна сціскае мае пальцы сваімі і абяцае:

— Будэм пісат. Напішэм вам…

— Я буду пісаць табе, — перакладаю я.

— Я буду пісат тэбэ, — паўтарае Янка, раптам узнімаецца і лёгка цягне мяне за руку. — Под со мною…

Я не пытаюся куды, бо ведаю: Янка ніколі не кліча проста так.

Ён вядзе мяне да скалы, па камянях, як упершыню, увесь час трымаючы мяне за руку, азіраецца штораз, каб бачыць, ці роўна я стаю, ці не хіснуўся пада мной камень. Вось жа…

Ля скалы Янка пускае маю руку, і я разумею, што мне трэба пачакаць. Ён ідзе да

глыбокай расколіны, засоўвае туды руку, нешта намацвае, вяртаецца да мяне з невялікім, амаль празрыстым зеленаватым каменьчыкам.

— Тэраз… — кажа ён і вядзе мяне да берага, дзе многа вялікіх камянёў.

— Зараз… — пакорлівым рэхам паўтараю я.

Янка прысядае, бярэ камень… Кладзе свой прыгожы каменьчык на другі камень, крыху размахваецца і б'е. Яшчэ і яшчэ раз.

Устае, працягвае мне далонь. Два кавалачкі каменя. На зломе палавінкі блішчаць насычаным цёмна-зялёным колерам.

Вось смешны Янка! Працягвае далонь і зазірае мне ў вочы. Я таксама гляджу яму ў вочы і бяру адну палавінку каменьчыка з яго далоні, сціскаю… Каменьчык цёплы…

Я не ведаю, чаму так атрымалася, але мы не развіталіся з Янкам. Мы проста разышліся з ім… кожны са сваёй паловай каменьчыка. А што было казаць? Я не ведаю…

Потым мы вячэралі з мамай, збіралі рэчы, клаліся спаць. Каменьчык быў са мною, у маёй руцэ. Раніцай прыйшоў аўтобус, мы селі і ехалі доўга-доўга… Некалькі дзён. Я трымала каменьчык, а ён быў такім цёплым. І я ведала, што ў гэты час Янка таксама трымае ў руцэ сваю палову каменьчыка.

# Як я даведалася пра дыялектыку



Вой, не пужайцеся такога незвычайнага слова! Я сама першы раз як пачула, здзівілася: навошта тата мне яго кажа? Ды яшчэ тады, калі запыталася пра простых жабак…

А было так. У майго таты ёсць знаёмая. У іх добрыя адносіны, бо яна паэтка, таксама вершы піша. Раней я думала, што цяперашнія паэткі — такія мажныя, нават тоўстыя цёткі, якія ходзяць павольна, кажуць напеўна і ўсё ў рыфму. А яшчэ апранаюцца надта прыгожа, накідваюць на плечы розныя пухнатыя шалі, нават улетку, робяць адмысловыя прычоскі… Я так думала, бо неяк тата маме паказваў часопіс і казаў: «Вось табе і паэтка сённяшняя…» — а на здымку там была якраз такая цётка.

Але ж татава знаёмая была ну зусім-зусім іншай! Я калі пабачыла яе, дык падумала адразу: русалка! Мне бабуля раней расказвала: русалкі жывуць у вадзе толькі з восені да Сёмухі — гэта ўвесну свята такое ёсць. А потым хто ў гаі гуляе, гушкаецца на бярозавых галінах, а хто як жыта падрастае, дык там хаваецца. А татава паэтка такая гнуткая ўся, валасы доўгія, колеру жытнёвай саломы, якая залаціцца на сонцы. Вось з-за валасоў я і падумала, што яна русалка.

А яшчэ, уяўляеце, у яе дома было больш за трыста жабак!

Ды не палохайцеся! Не сапраўдных, жывых жабак, бо чым бы яна іх карміла? Жабкі былі нежывыя, зробленыя… Вой, з чаго толькі не зробленыя! З гліны, дрэва, паперы, шкла, металу, пластыку, тканіны, пластыліну, салёнага цеста, каменю, воску, хлебнага мякішу… І самыя-самыя розныя! Ажно некалькі паліц у шафе было застаўлена жабкамі! Жабкі былі па ўсім пакоі: лямпа — быццам жабка, парасон — нібы жабка, кубак — з жабкай, на фатэлі — жабка вышываная… Я цэлую гадзіну ўсё разглядала, брала жабак у рукі і ўсё ніяк не магла ачомацца ад захаплення. Так незвычайна!

— Вось чаму калі адна жабка, дык паглядзіш на яе, патрымаеш у руках — і ўжо амаль не цікава? — спыталася я ў таты. —

Канешне, калі жабка асаблівая, дык можна доўга на яе глядзець, на стол сабе паставіць. Але ўсё адно… Гэтыя жабкі разам, у адным пакоі, яны нібыта зусім іншымі сталі, калі іх сабралі разам.

Вось тады тата і прамовіў тое незвычайнае слова — дыялектыка. Ён сказаў:

— Гэта, дачушка, закон дыялектыкі працуе… Пераход колькасці ў якасць.

Вось вы б не акруглілі вочы ад такога адказу? І я акругліла. Ды што я! Гаспадыня жабак таксама здзіўлена на тату паглядзела. А тата давай мне тлумачыць:

— Дыялектыка — гэта такая навука, якая тлумачыць, па якіх законах усё расце і развіваецца. Бо насамрэч ва ўсяго, што існуе навокал, ёсць нейкія свае законы. Дык вось, ёсць такі закон дыялектыкі: калі нечага становіцца шмат, надыходзіць момант, калі яно мяняе свае ўласцівасці, інакш кажучы, сваю якасць. Гэта і называецца законам пераходу колькасці ў якасць. Вось, напрыклад, была проста адна карова. Яшчэ адна да яе прыйшла — дзве каровы. А калі яшчэ шмат кароў сабраць да гэтых, дык атрымаецца статак. А статак кароў паводзіць сябе зусім не так, як адна карова. Альбо расце недзе дрэва. Простае дрэва проста і зразумела расце. А калі ля яго пасадзіць шмат-шмат дрэў, то яны вырастуць і разам створаць новую

якасць — лес, у яго будуць свае ўласцівасці, свае нечаканасці, свае лясныя законы. Зразумела, Жэнька?

Зразумееш тут... Я нічога не зразумела, але паспрабавала адгадаць:

— Калі адзін чалавек — ён проста чалавек. А тата, мама, дзеці — сям'я, так?

— Так, выдатна,— усміхнуўся тата.

— А калі шмат-шмат розных людзей, якія ўсе любяць свае карані, сваю зямлю, дык яны тады — народ, — падказала мне яшчэ прыклад гаспадыня-паэтка і запытальна паглядзела на тату. — Згодны?

— Вядома ж, так,— пагадзіўся, задаволены, што яго зразумелі, тата.

— Дык а жабкі ж нежывыя! — не магла дарэшты зразумець я.

— Нежывыя. Але адна жабка да другой, да трэцяй, да дзясятай — вось ужо і ка-лекцыя! — засмяяўся тата. — А калекцыя — гэта і цікава, і захапляльна, і прыгожа. Гэта ўжо не проста шмат жабак...

Вось такая дыялектыка ў таты атрымалася.

Вядома, мне адразу закарцела мець нешта сваё... Нейкую сваю калекцыю, каб у мяне таксама было нечага шмат, каб вось тое адбылося: сабралася разам, а потым раз — і новае атрымалася!

І я пачала думаць… Старыя грошы — збіраюць, манеты ды медалі —збіраюць… А яшчэ этыкеткі, караблі, машынкі, лялькі… Усё даўно прыдумана! Хіба вось цяпер цікава пачаць збіраць калекцыю… ну хоць нечага? Дык нехта такое даўно збірае! Вось як гэтая паэтка: яна ж збірае жабак сваіх ўжо амаль дзесяць гадоў!

Не, вы не думайце, я не баюся доўга працаваць. Хай і шмат гадоў міне, але ж навошта мне збіраць тое, што ўжо нехта збірае? Так нецікава…

Усю дарогу дадому я думала і думала. І дома адразу ў мамы спыталася: што мне збіраць? Мама пацiснула плячыма і пацікавілася, з якога пераляку я раптам вырашыла нешта збіраць.

— Гэта ўсё ды-я-лек-ты-ка! — з гонарам вымавіла я сваё новае слова і ўпэўнена дадала: — І па законах дыялектыкі ўсё жыве, вось! Мне тата казаў. І ёсць закон пераходу колькасці ў якасць!

— Не заўсёды ён працуе,— уздыхнула мама і азірнулася на тату.

Тата зрабіў выгляд, быццам не чуе. Мама пачала казаць мне, а сама на тату глядзіць:

— Вось, дачушка, да прыкладу, колькасць маіх скаргаў на тое, што ў нас на кухні падцякае кран, пакуль ніяк не пераходзіць у якасна новы кран…

— Мабыць, колькасць яшчэ не дастатковая, — прамармытаў тата і прашмыгнуў на кухню.

Мама мне нічым не дапамагла.

Я клалася спаць і думала. Але ўжо не пра тое, што мне збіраць, а пра той дзіўны закон: як колькасць пераходзіць у якасць, мяняе ўсё ранейшае… І сапраўды, вось жылі асобна мужчына і жанчына. А сустрэліся — сталі мужам і жонкай. А потым з'явілася я — і нас ужо трое, а яны сталі мамай і татам… Так цікава… Нешта заўжды адбываецца, калі разам збіраюцца людзі, якія нечым падобныя адно да аднаго, між якімі пачуцці.

Былі проста вучань і вучань. А сталі разам рабіць адну справу, дапамагаць адзін аднаму — ужо сябры. А калі да іх яшчэ далучацца іншыя, будзе каманда…

І тут я ажно падскочыла. Я буду збіраць сяброў!

Вы не здзіўляйцеся, зараз патлумачу. Я разумею, сябры — не жабкі, не маркі, не лялькі… Іх нельга вось так сабраць, калі захочаш і каго захочаш. Але я буду збіраць тых, хто, як я, любіць і ведае і размаўляе на нашай роднай мове. Вось у нашым класе толькі двое — я і хлопчык Міхаська — размаўляем па-беларуску. Але мы з Міхаськам пакуль не пасябравалі… Значыць, трэба пасябраваць. А сябрамі няцяжка стаць, калі

ёсць нешта такое, што любіш ты і я. У нас з Міхаськам ёсць што любіць разам — нашую мову.

Я засынала спакойная і шчаслівая: знайшла-такі, адшукала! Нас з Міхаськам будзе двое. Пасля мы з ім знойдзем усіх, хто, як і мы, размаўляе на роднай мове ў школе і дома. У нашай школе. А ў нашым горадзе некалькі школ! Нас стане шмат. І тады… тады мы зменімся. Бо тата кажа, што ёсць такі закон. Якімі мы станем? Я не ведаю. Але станем іншымі, бо нельга не стаць іншымі, калі любіць не кожнаму паасобку, а ўсім разам нешта адно, вялікае, дарагое і роднае ўсім…

# Змест

**Гапееў, В.**

Г12 Жэнька — каралева мышак : гісторыі з жыцця адной беларускай дзяўчынкі / Валеры Гапееў ; мастачка Элеанора Ляхновіч. — Мінск : Кнігазбор, 2021. — 112 с. : іл. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар» ; вып. 33).

ISBN 978-985-883-025-0.

Як сябраваць, каб было па-сапраўднаму? Як бараніць сябе і сяброў? Як гуляць так, каб было ўсім цікава? Як жыць з гэтымі дарослымі і не крыўдаваць на іх? Як прызнаваць свае памылкі і ці трэба іх прызнаваць? Ці можна плакаць, калі табе надта крыўдна? І як зрабіць так, каб нікому крыўдна не было? Вось такія няпростыя пытанні вырашае галоўная гераіня гэта кнігі — Жэнька, якая абавязкова стане вашай сяброўкай.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)**

